Спярша Алеся толькі рукамі замахала, адмаўляючы, але потым пагадзілася з сястрой.

Алеся меркавала, што астатнія два святочныя дні Тадзя ўжо не будзе яе чапаць, дасць спакойна пабыць з дзецьмі. Аж не — назаўтра раніцай Тадзеў выцвілы казырок ізноў мільгануўся між голляў сліў. На гэты раз брыгадзір наткнуўся на хлопцаў, што пакурвалі ля ганка. На што ўжо спакойны Аркадзя, але і той не вытрываў.

— На работу сёння маці не пойдзе, — сказаў ён і, як ёй перадалі потым, нечага нагаварыў тады брыгадзіру.

Яно, пэўна, усё і абышлося б неяк, але як на тое ўмяшаўся Манін Іван, шафёр з ПМК, які паспеў ужо «дзюбнуць». Ён падышоў да Тадзі ўпрытык, грудзі ў грудзі, і, паказваючы кіўком галавы на варотцы, кінуў проста ў твар:

— Ану матай з двара!

Тадзя, твар якога адразу ж наліўся густой чырванню, ускінуў і апусціў, ізноў ускінуў і апусціў галаву і ў момант вока быў за варотцамі. Ужо адтуль, борзда ідучы ад Алесінага двара і махаючы кулаком, пачаў выкрыкваць нейкія пагрозы.

Калі Алесі перадалі ўсё гэта, у яе з рук валіўся нож, якім яна, седзячы на зэдліку, абірала бульбу.

— Што ж вы нарабілі?..

Але Аркадзя пачаў яе заспакойваць.

— Нічога. Хай толькі папробуе пакрыўдзіць... — сказаў ён, — я тады... Прымушаць вас на работу ён не мае ніякага права. Тым больш што вы — на пенсіі. Вы можаце зусім не выходзіць. І я раіў бы вам, мама, не кідацца надта: трэба ж здароўе глядзець трохі. А калі грошай ці чаго ў вас не хопіць — хіба ж мы вам не паможам? Вы кажаце, каня не будзе даваць? Дасць — нідзе не дзенецца! І дроў прывезці, і бульбу пасадзіць... Як жа іначай! Вы ж з самага пачатку ў калгасе і ў калгасе! Не, калі толькі будзе на вас спаганяць сваю злосць, напішыце — я прыеду і пагавару дзе трэба...

Алеся з нахіленай галавой слухала сынавы словы: ёй было надта прыемна і хораша, што ёсць каму заступіцца за яе. Яна верыла, што Аркадзя не дасць яе ў крыўду.

Аднаго разу ён такі памог ёй.

Тады Тадзя ўз'еўся на яе за цялят. Сталага пастуха для іх у брыгадзе не было (ніхто ні за якія грошы не хацеў станавіцца на гэту пасаду), таму даводзілася пасвіць па чарзе. Алеся адразу сказала брыгадзіру, што яна не можа ганяцца за цялятамі-двухлеткамі — у яе балелі ногі. Тадзя не паверыў ёй — на выгляд Алеся і праўда была здаровая, нават чырвань на шчоках трымалася, таму і слухаць яе не захацеў: гані — і ўсё! А не — яна тады яго папомніць!

Так і не дала тады яна згоды. Ну а Тадзя таксама стрымаў сваё слова. Амаль паўгода не даваў ёй каня. Ці ў дровы трэба было з'ездзіць, ці бульбу абагнаць, ці сена прывезці — і не патыкайся да яго. Цярпела, цярпела Алеся дый наказала Аркадзю — каб прыехаў. Аркадзя дайшоў тады аж да райкама, пасля чаго брыгадзір не адважваўся больш так здзекавацца з яе.

Алеся думала, што і гэты раз ўсё скончыцца добра — пэўне ж, пабаіцца брыгадзір Аркадзі. Аж от як хітра прыдумаў Белазоры. Знешне як бы нічога кепскага для Алесі і не чыніў: каня даваў пры першым жа слове. Затое зрабіў «ласку» — не загадваць на работу. Кукуй сабе дома адна, сядзі каменем у хаце. Ты нікому не патрэбна, без цябе калгас абыдзецца!

Абыдзецца? Няўжо-такі ён можа абысціся без яе, Алесі? Яна ж, можна сказаць, і ёсць гэты калгас. Алеся ж была для яго і маткай, і нянькай, гадавала яго, даглядала, песціла, як малое дзіця, ратавала ад згубы.

Успомніўся раптам доўгі і нізкі (акенцы ўпоравень з зямлёй) свінарнік, пабудаваны ў той самы год, як арганізавалі калгас. Яна, тады яшчэ шаснаццацігадовая дзяўчынка, золкім асеннім досвіткам бяжыць па гразкім ад дажджоў завулку — карміць плойму калгасных свіней, што заўсёды проста вырывалі з рук вядро, не даючы вывернуць у карыта замешаную на мякіне вараную бульбу. Ад іх прарэзлівага віскату, ад хлюпоткай рыжай гразі пад нагамі, ад якой адразу кідала ў холад, Алеся, здаецца, немаведама б куды ўцякала. Але яна ўсё ж працавала ў свінарніку, бо ведала, што даглядаць свіней болей не было каму... Так, калгас тады быў зусім малы — усяго дванаццаць двароў аб'ядналася, а работы — процьма. Трэба ж было і сваю зямлю, што абагулілі, абрабіць, і далучаныя землі раскулачаных Лісоўскіх і Жыцькаў, і вялікае поле, адрэзанае ў аднаасобнікаў-дзярэчынцаў. А яшчэ ж жывёлы табуны дагледзець! Хочаш не хочаш, а давялося добра-такі папатужыцца тады і старым, і малым. За работай Алесі і на вечарынку не было калі збегаць. Ды каб і знайшла часіну, то ўсё роўна дарогі туды ёй не было... Гэта ж прыбралася аднаго разу, адзела чысценькую, гожа вышытую сукеначку, паўплятала ў косы сінія стужкі і разам з Марылькай, сястрычкай, падалася ў школу, дзе вечарам збіралася моладзь. Яны сарамліва, баючыся ўзняць вочы, увайшлі ў вялікі клас, парты якога былі ссунуты ў адзін кут і пастаўлены адна на адну. Вечарынка была ў разгары, пад гукі гармоніка і барабана круціліся пары ў вясёлай польцы. Дзяўчынкі пасталі ля сцяны. Ні яе, Алесю, ні сястрычку Марыльку не абдзяліў бог красою — абедзве былі, як гаварылі пра іх людзі, што лялькі. Успамінаючы той час, старая Мальвіна не раз казала: «Якая ты

была харошая тады, Алесечка!» Ды толькі хлопцы, якія раней ніколі не прамінalі, каб зачапіць іх як-небудзь, каб скубянуць, жартуючы, за бок ці за касу, цяпер яшчэ здалёк абыходзілі іх. Дзяўчаты, іх сяброўкі, з якімі яны яшчэ ў лялькі гулялі, цяпер таксама ўцякалі ад іх да другой сцяны — толькі нечага шапталіся. Стаялі-стаялі тады — адны на ўсю сцяну — сястрычкі, пунсовыя ад сораму, гатовыя скрозь зямлю праваліцца ад ганьбы, а потым разам кінуліся ў дзверы і — пад свіст вечарыншчыкаў — паляцелі дадому. Так помсцілі ім аднаасобнікі за тое, што яны былі дочкі калгаснага «актывіста» (бацька іх адзін з першых запісаўся ў калгас).

А што было ў вайну? Пры адным толькі ўспаміне пра той страшны час у Алесі халадзее ўсярэдзіне. Як пайшоў тады на фронт яе Андрэй, дык і па сённяшні дзень ад яго — ні слуху ні духу. Што ў пельку дзе праваліўся. Ёй жа, Алесі, пакінуў цэлых пяць ратоў! Як яна выгадавала дзяцей, як не дала ніводнаму памерці, Алеся і цяпер не можа зразумець. Вёска ж аказалася тады паміж двух агнёў — нямецкім гарнізонам у Пугачах і партызанскай зонай. Усё падчыстую вымяталі тады немцы з засекаў. А Алеся не толькі ратавала як магла дзяцей, а яшчэ і партызанам памагала чым магла, калі прыходзілі ўночы. Аднаго разу, ідучы ў разведку, да яе ў хату заскочыў сярод ночы з таварышамі стрэчны брат Алесь — распытаць пра немцаў. Здаецца, і духу нічыйго не было паблізу, а вось дазналіся ж неяк карнікі. Пад дзень, акружыўшы хату, загрукалі ў дзверы.

І цяпер стаіць у Алесі перад вачамі той худы і доўгі паліцай, што чэпкай, як абцугі, рукой хапіў яе за кофту. «Ану гавары, дзе партызаны? — сіпеў ён проста ў твар (Алесі чамусьці запомніліся яго роўныя белыя зубы). — А не — як суку прыстрэлім разам з тваімі байструкамі!» Тады Алеся ўбачыла і чорнае вочка ў дуле яго аўтамата. Першае, што падумала тады яна, — гэта дзецi. Яна нават уявіла, як у іх сонныя тварыкі настаўляюць во гэтыя жахлівыя дулы.

Алесі і сёння аж прыкра робіцца, калі ўспамінае, як кідалася ў ногі злым, са страшна халоднымі вачамі карнікам, як, называючы іх «паночкамі», маліла не чапаць яе дзетак, апраўдваючыся, што яна не вінавата. Не расстралялі тады яе з дзецьмі толькі таму, што карнікам уздумалася яшчэ паназіраць за хатай, устроіць тут засаду. На шчасце, партызаны за тыя дзесяць дзён засады ні разу не прыходзілі да Алесі — як ведалі.

Пад неадступным страхам прайшлі ўсе тры гады акупацыі. Калі прыйшлі нашы, пракрычаўшы сваё «ўра!», Алеся раптам заплакала. Усе беглі сустракаць запыленых, у выліняялых ад сонца гімнасцёрках «красных», а яна сядзела на падлозе сярод

хаты (у яе тады чамусьці адняліся ногі) і плакала. Яна парывалася выцерці слёзы, каб кінуцца ў канец вуліцы, дзе была тая сустрэча, але яны сыпаліся і сыпаліся з вачэй, сляза слязу паганяючы. Здавалася, гэта хлынулі раптам усе тыя слёзы, якіх немаведама колькі набралася за вайну...

Алеся рэдка калі ўспамінала перажытае, ёй не хацелася варушыць старыя, зарубцаваныя раны. Але сёння ўспаміны віліся ў яе галаве, як пчаліны рой. На памяць прыходзілі і далёкія, прытуманеныя гады дзявоцтва. Успомніліся Алесі і тыя разлезлыя «пышкі» першай пасляваеннай вясны — знойдзеныя ў полі гнілыя бульбіны, якімі яна ратавала дзяцей ад голаду, і прадаўгаваты, наспех высечаны з бярозы ба́рак, з дапамогай якога яна разам з такімі ж удовамі цягала за сабой цяжкі плуг, узорваючы ўдзірванелае поле, і пустыя працадні-палачкі.

Шмат хто пакінуў тады калгас. Не застаўся ў ім і Тадзя — уладкаваўся ў Пугачах абходчыкам на чыгунцы. Хоць і далёка было хадзіць туды, затое меў там хлеб.

Можа б, і яна тады найшла сабе дзе работу, завербавалася б у якую шахту ці на будоўлю, як іншыя. Але зноў жа куды кінешся вельмі з дзецьмі? Так і засталася дома — падымаць калгас.

Тадзя ж вярнуўся сюды, калі ў калгасе ўсё наладзілася. Вярнуўся, можна сказаць, на гатовенькае. І цяпер вось камандуе.

Вядома, да Тадзі цяпер не вельмі лёгка і падступіцца. Бярозавапасецкая брыгада ўжо не адзін год займае першае месца ў калгасе, і Тадзеў фотаздымак вісіць на Дошцы гонару каля праўлення ў Замошшы. Хваляць яго за тое, што наладзіў дысцыпліну ў брыгадзе. Але ж хіба гэта яго заслуга — калгаснікі самі цяпер ахвотна ідуць на работу.

Яна паднялася з ложка, акуратна разгладзіла посцілку, падбіла і роўна паклала ў падгалоўе падушку. Паправіла валасы і накіравалася ў двор. Зараз яна возьмецца за ўсю тую дробную дамашнюю работу, якую дагэтуль адкладвала: бо тады, як пойдзе ў калгас, наўрад ці дацягнуцца ўжо да ўсяго рукі.

* * *

Яшчэ раніцай яна добра вымыла-вышаравала падлогу, папарадкавала чыгункі ды міскі, павыцірала ўсюды пыл, і хата заблішчала, запахла свежасцю, зайграла сонечнымі зайчыкамі. Сёння ж да Алесі прыязджае сын, Аркадзя.

Поезд у Пугачы прыходзіць пасля адзінаццаці гадзін. Значыць, Аркадзю трэба чакаць недзе пад полудзень. Алеся хадзіла па двары і не-не дый зіркала на дарогу, дзе ён павінен паказацца.

Прыехаў Аркадзя нават раней, чым яна думала: казаў, узяла на дарозе машына, што звозіла на смалакурню карчы. Алеся якраз падбірала на дрывотніку трэскі, калі бразнула клямка сянец. Апусціўшы прыпол з трэскамі, што ўпалі на зямлю, яна подбегам пайшла да хаты. Сын быў ужо там. У жоўтай з палоскамі безрукаўцы, нейкі незвычайна паджарысты і касцісты, ён, хоць і меў ужо за трыццаць, выдаваў за юнака.

— Ну, дык як вы тут, мама? — папытаў Аркадзя, пільна гледзячы на яе.

— Садзіся — паясі чаго: ты ж з дарогі, — адводзячы ўбок вочы, сказала яна замест адказу і, замітусіўшыся, пайшла на кухню.

Нарэшце, абгарнуўшы ручнікам, каб не апячыся, яна паднесла яму глыбокую алюмініевую міску з капустай, ад якой па хаце разышоўся густы прыемны пах. Аркадзя, калі бываў дома, заўсёды, садзячыся за стол, пытаў у мацеры, ці ёсць капуста, — яе, добра выварaную ў печы з мяккімі шапкастымі баравікамі ці краснагаловікамі, трошкі прыбеленую смятанкай, любіў ён больш чым што, і Алеся дзеля яго і згатавала яе сёння (балазе два зялёныя качанчыкі прывезла ў нядзелю з Асіповіч дачка Надзя).

— А сабе чаму ж не наліваеце? — папытаў Аркадзя, падцягваючы да стала крэсла.

— Еш, еш, — я пад’ела ўжо...

Алеся прынесла і паставіла перад Аркадзем яшчэ гладыш з салодкім малаком, фарфоравую конавачку, сама прысела збоку, на зэдлі.

— Ну, як жа там твае?

— Ды нічога — хварэць пакуль не хварэюць, — локаць яго левай рукі, у якой быў хлеб, стаяў на краі стала, другой рукой Аркадзя зачэрпваў капусту, нагінаючыся за кожным разам над міскай і хукаючы ў лыжку.

— А Марынка як? Не перастала балець горла?

— Ды ўжо не жаліцца.

— Праполісам мазала ці ў больніцу хадзіла?

— Праполісам, ну.

— От бачыш. Я ж казала, што праполіс паможа. Хай выздараўлівае ўнучачка. Не забыць бы яшчэ ўлажыць табе з шарык. Сёлета як ніколі яго лепяць пчолы. Няйначай, марозная зіма будзе...

Гаварыла Алеся — яна сама гэта чула — якімсьці не сваім, драўляным і сцішаным, нібы пасля хваробы, голасам.

— Мама, дык раскажыце ж, што ў вас? — Аркадзя адставіў убок спарожненую міску, наліў у конавачку малака.

Алеся цяжка ўздыхнула, памаўчала.

— Ды ўсё Тадзя помсціцца... — яна замоўкла, схіліла галаву.

— Дык за што ж тут помсціцца?

— А вот скажы ж ты...

Аркадзя ўстаў, захадзіў па хаце: значыць, пачаў гарачыцца.

— І што ён — зноў каня не дае, сенакосу?..

— Ды каня дае. І сенакос калгас выдзяляе. А от на работу не загадвае.

Алеся раптам адчула, што яна не можа ўсё, як трэба, растлумачыць сыну. Яна разгубілася. Хацела яшчэ нешта сказаць, каб сын зразумеў яе, але словы чамусьці заселі ў горле. І яна толькі са спалохам глянула на Аркадзю. Аркадзя стаяў са схіленай галавой — думаў.

— Не загадвае на работу? Ну дык і добра, мама! Хіба ж вы не нарабіліся за свой век? Вам жа і адпачыць пара. Я даўно вам гэта казаў. Ну, раз не хочаце ехаць да нас у горад — глядзіце сваю гаспадарку, і хопіць з вас. Вам жа і доктар казаў, каб ні ў якім разе неператамляцца. А грашыма мы вам паможам — не бойцеся...

— Ды пры чым тут грошы... Адна дома...

— Ну, гэта не бяда, — павесялеў Аркадзя, — гэта пройдзе, проста вам яшчэ непрывычна без калгаснай работы. Для вашага здароўя вам і на сваёй гаспадарцы ёсць што рабіць. Рабіце сабе паціху і думаць не думайце нікуды хадзіць...

Алеся слаба ківала галавой, як бы згаджаючыся: яна ўжо бачыла, што сын яе не зразумее. Што ж, ён хоча як лепш для яе.

— Ты, можа, паляжаў бы з дарогі? — сказала яна, перапыняючы гаворку і тым самым паказваючы, што ўсё гэта яе цяпер ніяк не абыходзіць — нашто яму думаць лішне.

Аркадзя, разгарачыўшыся, яшчэ даказваў ёй, што дома ёй будзе лепей, але, убачыўшы, што яна згаджаецца з ім, пайшоў за шырму, да засцеленага простай посцілкай ложка, рады, што пераканаў матку.

Сын хутка заснуў — ведама, з самага ранку ў дарозе — і цяпер ціха пасопваў носам. Алеся ж яшчэ доўга снавала туды-сюды па хаце, цяжка, роспачна ўздыхаючы.

Праз дзень яна праводзіла сына на дарогу, што вяла да станцыі. За час пабыўкі Аркадзя пакалоў усе дровы, што былі нарэзаны раней, паправіў каля хлява падгнілы плот, наладзіў у варыўні дзверы — ён заўсёды, калі прыязджаў, спяшаўся чым-небудзь памагчы мацеры. Вядома, ёй гэта было унь як прыемна — не так ад той помачы, як ад увагі сына, ад думкі, што і пра яе вось клапоцяцца, і яе не кідаюць зусім адну, не забываюць.

Развітваючыся, Аркадзя яшчэ раз загаварыў пра яе работу.

— Глядзіце ж, неператруджвайцеся. Трэба ж і здароўе сваё трохі глядзець. Хоць цяпер, на старасці гадоў, адпачніце — вы ж заслужылі, мама.

— Добра, добра, —ківала галавой Алеся, каб хутчэй спыніць гэтую гаворку.

Развітаўшыся з сынам, Алеся доўга стаяла на дарозе, гледзячы ўслед Аркадзі. Сэрца яе так і рвалася за сынам — туды, у горад, дзе ўсе яе дзеці і ўнукі. Яна аглянулася назад, на сваю свежаашаляваную хату пад белым шыферам, на панадворак з грудай яшчэ неразабраных дроў і складзенымі крыж-накрыж дошчачкамі, што засталіся ад шалёўкі. Надта ж пустой здалася ёй цяпер свая хата. Можа, і праўда, кінуць усё і паехаць у горад — няньчыць унукаў?. Яны ж, дзеці, ужо ўсе вушы пратрубілі ёй пра гэта. Ды Алеся даўно ўсё ўзважыла і цвёрда сказала сама сабе сядзець дома і нікуды не рыпацца. Яна ніяк не магла ўявіць сябе ў гарадской кватэры, дзе трэба б было толькі і ведаць, што сядзець склаўшы рукі. Ды яшчэ думаць увесь час, як ступіць, як павярнуцца, каб не ўгнявіць дзяцей. Яна ведала, што калі застанецца дома, то і ёй, і ім будзе лепей. Да таго ж хоць будзе куды летам усім прыязджаць у водпуск — тут жа і грыбоў поўна, і ягад, і паветра свежае, лясное, і рэчка ж блізка.

Прыгорбіўшыся, паўсаджваўшы рукі ў рукавы плюшаўкі (хоць на дварэ было зусім цёпла), яна паволі пасунулася дахаты.

* * *

Сёння Алеся, уходжваючыся каля хаты, ізноў наглядала за вуліцай: яна цвёрда, не адкладваючы, наважыла пагаварыць з Тадзем і чакала, калі ён будзе, загадваючы людзям на работу, праходзіць паўз яе двор.

Яна падышла да варотцаў і, абапёршыся на іх рукамі, паглядзела на вуліцу. У тым канцы вёскі, дзе павінен быў паказацца Тадзя, было пуста. Толькі Грышкаў чорны сабака лянiва, з апушчаным хвастом хадзіў каля лужыны, нешта абнюхваючы. Алеся сабралася ўжо ісці назад, да хаты, але, павярнуўшыся ў другі бок, нечакана перад саменькім носам убачыла казыркатую брыгадзіраву шапку. Тадзя, ведама ж, бачыў, як яна выглядала з двара, але зрабіў выгляд, што нават не заўважае яе.

— Тадзя, пачакай! Я хачу з табой пагаварыць, — яна нагнулася адшчапіць варотцы, але зашчапку, як на тое, раптам нешта заела, і Алеся, спяшаючыся, з сілай ірванула варотцы на сябе так, што зашчапка зусім адарвалася ад шула.

Тадзя ж нават і вухам на яе не павёў — як ішоў, так і пайшоў далей. Як быццам і не чуў нічога. Алеся ўсё ж дагнала яго, заскочыла наперад.

— Тадзя, давай усё ж такі пагаворым...

Ён нават не сцішыў хады. На твары не варухнулася ніводная жылка. Глухі — ды і толькі! Толькі Алеся не адставала. Бегучы збоку, прасіла суняцца, паслухаць яе. Нарэшце Тадзя прыпыніўся.

— Ну, што ты хочаш? — ён стаяў да яе бокам, не паварочваючы галавы. У голасе яго быў лёд. У Алесі ў самой пахаладзела ад яго ўсярэдзіне, але яна ўжо ні на што не зважала.

— Паслухай, Тадзечка... — яна перавяла дыханне. — Давай, можа, прысядзем, — яна паказала на калоду пры плоце і першая прысела, астаўляючы яму месца.

Тадзя з хвіліну пастаяў яшчэ, павагаўся, відаць, раздумваючы, паслухаць жанчыну ці пайсці далей.

— Ну што ж, давай сядзем, — ён прысеў на край калоды. — Гавары...

— Тадзя, ці ж я вінаватая, што так палучылася тады?.. Чаму ты абыходзіш мой двор?..

Ёй цяжка было гаварыць, голас яе дрыжаў. Тадзя ж колькі хвілін маўчаў, разгладжваючы чаравікам пясок. Потым выпрастаўся, адкінуўся спінай да плота.

— Таму што не трэба быць разумнейшай за каго. Хочаш рабіць у калгасе, дак рабі. І няма чаго хавацца за спіны сыноў ды зяцёў. Панаязджаюць тут і пачынаюць свае парадкі ўстанаўліваць. Бач, што ўздумалі — брыгадзіра са двара выганяць!..

Алеся, збіваючыся, пачала апраўдвацца перад Тадзем, даводзячы, што тады ва ўсім вінавата была гарэлка: на цвярозы розум хлопцы б так не зрабілі. Яна бажылася, што сама ніколі не хацела яму кепскага і што такога болей не будзе.

— Ну што ж, — да канца выслухаўшы яе, сказаў ён, — раз павінавацілася, то іншая рэч. Я чакаў, пакуль ты павінавацішся. — Алеся ўбачыла на яго твары ўсмешку; ён устаў з калоды і дадаў на адыход:— Пойдзеш сёння на канаву сена варочаць.

Алеся ж спярша і з месца не кранулася. Сядзела і затуманенымі вачыма няўцямна глядзела, як ішоў Тадзя па вуліцы, махаючы, па сваёй завядзёнцы, галавой — уверх-уніз, уверх-уніз...

Хутка яна пачула галасы, што даносіліся з другога канца вуліцы. Гэта ішлі ўжо на сена, памахваючы граблямі, жанкі-суседкі. Алеся паднялася і хутчэй заспяшалася ў свой двор, па граблі: цяпер як ніколі ёй хацелася быць разам з усімі.

*1976*

# МАРЫЛЬКА

Колючы на дрывотніку напілаваныя надоечы з маткай бярозавыя круглякі, я пачуў на двары Акулоўскіх, нашых суседзяў, частыя, узбуджаныя галасы. Удзяўбнуўшы ў калодку сякеру, я завярнуў за рог хлява — паглядзець, што там такое. Перад вокнамі сваёй хаты кідалася туды-сюды, за нешта ўшчуваючы дзяцей — Людку і Славіка, Соня — нізкая, вельмі рухавая, з трошкі раскосымі, як у кітаянкі, вачамі жанчына (яе Коля Акулоўскі нагледзеў у суседнім Азярышчы). Ад ганка на вуліцу, на хаду ўскідаючы на сябе фрэнчык, ішоў подбежкам і сам Коля, хударлявы і дробны — што падлетак. Ён апошнім часам рабіў у калгасе трактарыстам і цяпер пад'ехаў дадому на полудзень, — яго запылены «Беларус» сцішана стаяў у цяньку пад прывулічнай ліпай.

Я прыпыніў конюха Антося Цагойку, што якраз кіраваў адтуль з перакінутай цераз плячо аброццю на канюшню.

— Што там такое, дзядзька?

— Марылька сышла з дому!

Навіна нябачнай іголкай востра кальнула ў сэрца. Я зняў з козлаў фрэнч, заспяшаўся на вуліцу.

Марыльку — цяпер ужо старую за семдзесят гадоў, хударлявую, трошкі як бы прыгнутую (мо таму, што была высокая) жанчыну з таго канца нашай Бярозавай Пасекі — я доўгі час неяк не заўважаў. Ведаць то ведаў, як і ўсіх бярозавапасекцаў (усё ж вёска наша невялічкая), ведаў, што яна — сястра Мікоды Акулоўскага, Колевага бацькі, ведаў, што ў яго сям'і і жыла яна недзе яшчэ з туманнага для мяне даваеннага часу, ведаў і, вядома ж, бачыў яе безліч разоў, але чамусьці нічым яна мне не запомнілася. Я нават не магу прыгадаць, ці гутарыў з ёй калі. Была яна нейкая непрыкметная, ціхая, нічым не вылучалася сярод іншых жанчын, з якімі разам хадзіла на ўсе калгасныя работы. Я ні разу не чуў, каб яна была замешана ў якім вясковым здарэнні ці сварцы. І гэта тым болей дзіўна, што ў Мікодавай хаце ўсякіх там сварак было хоць адбаўляй: гаспадар, хоць і быў на людзях памяркоўны, заўсёды спакойны (помніцца, ён неяк коратка, адрывіста смяяўся «Гэ-гэ!»), а от нешта ж не ладзіў са сваёй Аўдоляй, ваўкаватай і, кажуць, вельмі ж ужо наравістай жанчынай, якую ў любой спрэчцы нікому і ніколі не ўдавалася ў чым-небудзь пераканаць: нават тады, калі і дзіцяці было відаць, што яна памыляецца, Аўдоля ўсё роўна да канца стаяла на сваім. Бывала, Мікода збіваў яе ў квач — так часам раз'ятрываўся. Але яна, зацяўшыся, маўчала, як камень, аніводным гукам не выдаючы, што ёй баліць, нават і не збіраючыся

перапрошваць Мікоду, павінаваціцца перад ім, ад чаго ён яшчэ больш шалеў. Праз шыбы вокнаў, як тыя ядры з гармат, ляцелі тады гаршкі ды макотры, над панадворкам і вуліцай доўга кружыў рой пуху ды пер'я ад разматлашаных падушак. Але буры, якія чуваць былі аж у нашым канцы вёскі, хутка ўціхамірваліся, і на другі дзень Мікода рука аб руку са сваёй непакорлівай жонкай (галаву яна, як заўсёды, трымала прывучана высока) з граблямі ды сахарамі праставалі на балота — грэбці сена — ці, усеўшыся ў драбінах, кацілі на шустрым Кобчыку пад Альхоўку у дровы. Адзін Бог ведае, як не зачэплівалі, не ўцягвалі ў сваю крутаверць тыя буры і Марыльку. Ды і як яна жыла ў гэтакай калатнечы?

«Разгледзеў» я Марыльку толькі тады, калі, захварэўшы на крываўку, памёр Мікода і Коля забраў цётку да сябе. У яе быў нейкі мяккі, вельмі жаноцкі выраз твару, ад сіняватых, усё яшчэ не пабляклых вачэй ішла дабрыня і лагода. Так, гожая, мусіць, была яна некалі дзеўка! Высокая, статная. Час і няўпынная праца, вядома ж, зыначылі цяпер яе воблік. Асабліва ўразілі мяне яе рукі, калі я першы раз іх убачыў, — вузлаватыя, чорныя (іх не адмыеш ніякім мылам), з паскручванымі пальцамі, з цвёрдымі, як драўніна, падушачкамі-наростамі мазалёў.

Нядаўна пачуў я і яе гісторыю. Аказваецца, Марылька выходзіла і замуж. І нават не раз — ажно два разы!

Першы раз да яе пасватаўся малады і вельмі гожы хлопец з Даманавіч, вялікага, некалі валаснога, сяла. Марылька адразу ж упадабала яго. І бацькі не пярэчылі: хай бы жылі сабе, род доўжылі. Ужо на шматлікіх вазах і вазках прыкаціла з гармонікамі, бубнамі, са звонкімі жаночымі галасамі ў шырока расчыненыя вароты Акулоўскіх вяселле, запоўніўшы гасцямі ўвесь іх прасторны двор. Ужо селі ў красны кут шчаслівыя маладыя, пазаймалі свае месцы шаферы і шаферкі, сваты і свацці, ужо загучалі ўрачыстыя словы хвалы маладому і маладой, пайшлі па крузе налітыя з беражкамі гранёныя чаркі, ужо задрыжалі ад галасістых песень аконныя шыбы, захадзілі ходырам ад звонкіх абцасаў вясельнікаў, якіх вымела з-за сталоў віхура «Лявонiхі»», шырокія дошкі падлогі, як зусім нечакана, у самы разгар гулянкі, высока ўзнялася над вясёлым тлумам і застыла каля сучкаватай бэлькі традыцыйная сватава булава, просячы цішыні і ўвагі, а калі сціхлі музыка і бязладны галас, здзіўленыя госці, не верачы сваім вушам і тут жа цверазеючы, пачулі панылы, зусім не вясёлы, з нейкай дрыжынкай голас свата, які сур'ёзна, без жартачак аб'яўляў, што... вяселле закончана, што ўсе даманаўцы павінны зараз жа збірацца дадому. Выявілася, што бацькі не сышліся ў пасагу: быццам бы

Марыльчын бацька нечага там недадаў за маладой, быццам бы ашукаў сваіх сватоў. Спрэчка, што вялася ў каморы, куды даносіўся з хаты праз сцяну вясельны гам, перарасла ў сварку, якая і прывяла да разладу.

Другі раз усміхнулася было ёй шчасце, калі яна ўжо і не чакала яго: заседзелася ў дзеўках. Думала, так і дажываць будзе свой век: хто ж паквапіцца на перастарку, калі столькі маладых дзевак у вёсцы! Аж не — знайшоўся і для яе чалавек. Быў гэта Імполя Каляда, круглатвары мужчына гадоў сарака, які наняўся — зноў з тых жа Даманавіч — бярозавапасекцам у пастухі. Ён адразу прыйшоўся ўсім па душы, стаў у Бярозавай Пасецы як свой. Мусіць таму, што быў ён дабрадушны, шчыры і надта ж рагатлівы, вясёлы. Сказаць, каб сам ён умеў жартаваць, расказваць вясёлыя гісторыі, то не скажаш, але з любой дробязі ён так залівіста смяяўся, што, гледзячы на яго, аніхто, нават самы пахмуры чалавек, не мог утрываць, каб гэтак жа шчыра, ад душы не засмяяцца таксама. Хоць Імполя і прыбіўся сюды ў заработкі, але за платай не вельмі ганяўся: браў за сваё пастухоўства, што давалі, а калі хто не вельмі меў чым заплаціць, ён не толькі не крыўдаваў, а яшчэ прасіў, каб пра гэта і думаць не думалі: яму, даволі было і падворнага, таго, чым яго частавалі, калі ён па чарзе сталаваўся і жыў у гаспадароў. Як прыходзіла чарга да Акулоўскіх, слала пасцель, гатавала яду і падавала на стол Імполю Марылька. Ёй так падабалася прыслугоўваць яму, што яна чакала новай чаргі як свята. І вось аднаго разу пастухоўская чарга Імполі назаўсёды сунялася на двары Акулоўскіх: хлопец папрасіўся да Марылькі ў прымы. Вядома, яна згадзілася б пайсці за ім і ў Даманавічы, але ж там у яго не было ні кала ні двара: застаўшыся з малых год чамусьці без бацькоў, ён жыў па людзях, якія неяк і выгадавалі яго грамадою.

Марылька проста расцвіла за Імполем, акрыяла. А якім шчасцем засвяцілася яна, калі даведалася, што ў іх будзе дзіця! Лежачы з Імполем у пасцелі, яна брала яго руку, асцярожна прыкладвала да свайго жывата, дзе чуліся пакуль яшчэ слабыя, але выразныя штуршкі жывой істоты. Да поўначы не змыкалі тады яны вачэй, аддаўшыся салодкім мроям, гадаючы, хто ж у іх будзе — сынок ці дачушка.

Але тут здарылася такое, чаго яны і чакаць не чакалі, і думаць не думалі.

Пачалося ўсё з таго, што Імполя, пасучы па свежым іржэўніку каровы, падышоў — каб пабавіць час — да бульбянага бурта, каля якога ўвіхаліся мужчыны — абкладвалі яго саломай. Былі там Галляшоў Паўлік, плячысты здаравяк, прыветлівы і

добры чалавек з пастаяннай, нейкай нібы вінаватай усмешкай на твары, Рыгор Шалькевіч, немалады, спакойны і разважлівы мужчына, і Аралеп... Імполя, гамонячы з буртаўшчыкамі, таксама ўзяў у рукі сахор, што быў уваткнуты каля наваленай збоку саломы, і пачаў пакрысе памагаць ім — не стаяць жа склаўшы рукі, калі ўсе робяць. У гэты час нечага праходзіў міма бурта канцавы Іван Кругленя, весялун і жартаўнік, што ведаў безліч розных прыгаворак ды прымавак, за што на вяселлях яго заўсёды бралі за свата. Параўняўшыся з Паўлікам, што якраз раўняў салому ў канцы бурта, ён, нібы здароўкаючыся, весела гукнуў:

— Дарма робіш!

— Праўду кажаш! — у тон яму, разгінаючыся, адказаў Паўлік.

Упершыню пачуўшы такое незвычайнае здароўканне (яго прыдумалі ў Бярозавай Пасецы, калі тут стаў калгас), Імполя весела, як гэта ён умеў, зарагатаў.

Пасмяяліся мужчыны — і толькі таго.

Але ж не, так гэта не прайшло.

Аднае ночы Марыльку разбудзіў рэзкі стук у дзверы. Яна тут жа раскатурхала Імполю, які доўга цёр вочы, ніяк не цямячы, дзе гэта ён і што ад яго хочуць. Але яшчэ больш настойлівы стук у дзверы ўрэшце выбіў з яго рэшткі сну. Імполя мігам падняўся, запаліў ліхтар і, свецячы перад сабой, у зрэбных споднiках пашлэпаў босымі нагамі ў сенцы, да знадворных дзвярэй. «Мо з каровай у каго зрабілася што», — чамусьці падумалася яму. Але калі адкінуў завалу і пацягнуў на сябе дзверы, быў вельмі здзіўлены: у дзвярах чырванелі міліцэйскія фуражкі. НКВД? Ловяць каго? Але прыйшлі энкавэдзісты, аказваецца, якраз па яго, Імполю Каляду. І Марылька, і бацька з маткай, хоць і былі вельмі напалоханы, усё ж і блізка не дапускалі думкі, што Імполю могуць доўга трымаць, бо добра ведалі, што за ім не было аніякай віны. Ды і якая можа быць віна ў пастуха? Можа, у сведкі якія спатрэбіўся? Але раніцай выявілася, што гэта прылятаў у Бярозавую Пасеку хапун — на чорным воране. І што схапіў ён не аднаго Імполю. А яшчэ Івана Кругленю і Галляшовага Паўліка. Забралі мужчын за тое «здароўканне» каля бурта. Івана — за «дарма робіш», Паўліка — за «праўду кажаш», а Імполю — за тое, што смяяўся з таго «здароўкання». А ўдаў іх гэты «грамацей» Міхаль Пракапеня, альбо Аралеп, як яго звалі ў вёсцы. (Некалі яго дзед злавіў верабейку і прынёс за пазухай унуку. «Што гэта?» — «Аралепка», — адказаў малы; з таго і пайшло за ім — Аралепка, Аралеп.) Аралеп хадзіў па вёсцы заўсёды з напускной важнасцю, лічачы сябе першым грамацеем: ён выпісваў і чытаў многа розных газет, ведаў, дзе

што робіцца на свеце, якая цяпер «паліціка», якія бываюць падкопы і вылазкі класавага ворага, якім трэба быць калгасніку.

Зразумеўшы, у якую бяду трапіў Імполя, Марылька не знаходзіла сабе месца, ад цяжкіх, змрочных думак у яе пухла галава. І калі да Бярозавай Пасекі дайшла чутка, што яе Імполю бачылі ў Слуцку, у НКВД, Марылька, не задумваючыся, пешшу пусцілася ў дарогу, хоць ісці трэба было не адзін і не два дзесяткі кіламетраў. А якраз жа ўсчаліся халодныя асеннія дажджы, раскіслі, раз'ехаліся ад гразі дарогі. Вярнулася Марылька дадому аж праз тры дні. Як яна туды дайшла, у такую далеч, дзе прападала, нікому не расказвала. Але прыйшла Марылька ўчарнелая, прыгнутая, з патухлымі вачамі, абыякавая да ўсяго. У той жа дзень яна злегла. І надоўга. Ніякія лекі не памагалі: яе трэсла, кідала ў бяспамяцце. Кончылася ўсё тым, што ў Марылькі пачаліся дачасныя роды. У яе нарадзілася дзяўчынка. Нежывая...

З часам Марылька ачуняла, устала на ногі. Несупынная сялянская праца, вечны клопат пра хлеб, вядома ж, прыцішылі, прытупілі яе незагойную душэўную рану. Памагала, не давала да канца адчаяцца і надзея, што ўсё ж такі разбяруцца некалі разумныя людзі і выпусцяць, вернуць ёй яе Імполю. Кожны дзень не-не ды і паглядвала яна на дарогу, па якой павезлі яго і адкуль ён павінен ісці дадому. Не адзін раз радасна пачынала стукаць сэрца, калі ў чалавеку, што паказваўся на той дарозе, яна знаходзіла нешта падобнае на яго, Імполю. Але тут жа з горкім сумам пераконвалася, што ёй ізноў толькі здалося. За доўгія гады яна нават вестачкі не атрымала ні ад яго, ні пра яго. Што ў ваду кануў...

Хоць і была Марылька цяпер нашай суседкай, але я, наязджаючы дадому з Мінска, звычайна бачыў яе зводдалеку, з нашага двара: яна ўсё тупала за хлявамі Акулоўскіх на зарослай быльнягом ды палынамі дармаватай ялавіне — раней гэта былі соткі, але тут месца высокае, неўрадлівае («адзін пясочак»), вяскоўцы адцураліся іх, узялі сабе зямлю па другі бок вуліцы, балазе яе цяпер хапала, усю і засяваць калгас не ўпраўляўся.

У гэты мой прыезд (мне захацелася правесці дома свой водпуск) я ўбачыў Марыльку бліжэй. Яна ішла ад свайго двара вуліцай, паўз самы плот, і, раз-пораз нагінаючыся, нешта збірала ў прыпол хвартуха. Так яна дайшла да нашых варот, якія былі чамусьці адчынены, і спакойненька завярнула ў наш двор, дзе звычайна хадзілі куры ды рыліся свінні. Стоячы якраз на двары, я са здзіўленнем убачыў, што Марылька, не звяртаючы на мяне аніякай увагі, падбірае з зямлі пер'е — бруднае, з пяском, з прыкарэлымі камякамі курынага памёту. Я адвёў вочы

ўбок, робячы выгляд, што не заўважаю гэтага, і чакаў, што яна, убачыўшы мяне, збянтэжыцца. Але Марылька глянула на мяне нейкім няўцямным позіркам, памыляла губамі, памыкаючыся нешта сказаць, і, тут жа забыўшыся пра мяне, ізноў скіравала вочы долу. Нагнулася і каля самых маіх ног падняла яшчэ адну счарнелую пярынку з прыліплай грудкай высахлай гразі. Разгублены, не ведаючы, што і падумаць, я пайшоў у хату. Тут і паведаміла мне маці тую невясёлую навіну: гэта ж здзяцінела на старасці гадоў Марылька.

Назіраючы, як яна на аблюбаванай палыновай ялавіне шчыруе над нечым, то нагінаючыся, то зноўку выпростваючыся, — якраз так, як жанкі жнуць жыта, я падышоў да яе і здзівіўся: у яе і праўда было жніво! Яна рвала палын і быльнёг, складвала ў роўныя кучкі, рабіла з некалькіх каліў перавяслы, звязвала імі тыя кучкі ў снапы і ставіла бабкі. Прытым не забывала і «шапкі» ім надзяваць. Я акінуў вокам яе палетак: і тут і там стаялі сівыя палыновыя бабкі. А Марылька, няўцямнымі вачамі глянуўшы на мяне, далей пачала рваць гэтую не надта падатную горкую траву, то выцягваючы яе з коранем, то пераламляючы ў сцяблах.

Другі раз я ўбачыў яе за іншым заняткам. Яна сядзела там жа на камені і закалыхвала на руках ляльку — звычайнае бярозавае палена, якому завязала квяцістую анучку — хустку, укруціла ў нясвежы шматок палатна і абматала шпагатам. Пагайдаўшы «дзіця», яна схілялася над ім і, нешта там папраўляючы, напявала яму нейкую песеньку. Стары, але не надта каб маршчыністы яе твар лагоднеў, азараўся светлай, незвычайнай для яе ўсмешкай — усмешкай ціхага шчасця.

Але не ўсе яе дзівацтвы былі такія бяскрыўдныя. Марылька, як расказвалі Акулоўскія, магла ўтварыць немаведама якую шкоду. Ужо не раз было: то курэй у хату панапускае, то выверне ў свіное карыта прыгатаваны для ўсёй сям'і крупнік з печы, то нацягае ў хату зямлі ды панапаўняе ёю міскі, гладышы, слоікі, то раптам збярэ ўвесь посуд і знясе куды-небудзь у палын: будзеш дзень шукаць — не знойдзеш, а то прыдумае такое, што і сказаць нельга. «І адвінуцца не паспееш, — часта бедавала Соня, — як што-небудзь адпаліць». І ўшчуваць спрабавалі Марыльку, і добра накрычаць, насварыцца на яе, але гэта нікольки не памагала: яна проста не разумела, што ад яе хочуць. За ёю трэба было глядзець ды глядзець — горай як за малым дзіцем. Звычайна, калі Соня з Колем ішлі ў калгас на работу, старую прыпаручалі Людцы і Славіку: яны ж былі ўжо вялікія, школьнікі.

Як бы там ні было, але дагэтуль Марылька ніколі не адыходзілася далёка ад свайго двара, заўсёды круцілася паблізу. Гэта

быў яе свет, прывычны, абмежаваны пэўнай, вядомай у сям'і лініяй, за якую яна сама ні разу не пераступала за ўсе апошнія гады. Што ж сталася з ёю цяпер?

Я падышоў да жанок, што сабраліся каля варотцаў Акулоўскіх. Аказваецца, адбылося вось што. Марылька надумала папасвіць гусей. Пахадзіўшы за імі па быльняговай ялавіне, яна потым адшчапіла варотцы і сілком загнала гусей у гарод. Тыя спачатку працівіліся, а потым, убачыўшы столькі сакаўной зеляніны, з вялікай ахвотай кінуліся ў грады і пачалі матлашыць усё, што толькі ім траплялася. Нават і гагаць перасталі, наўзахапкі набіваючы валлякі. Пакуль Людка, якую пакінулі дома назіраць за старой, агледзела гэта, зачытаўшыся «Палескімі рабінзонамі», дык гусі здратавалі палавіну гарода. Выгнаўшы з гарода гусей, Людка пачала крычаць на Марыльку і, паказваючы на шкоду, са злосцю штурханула старую ў бок. Гэта і пакрыўдзіла Марыльку. Нешта хуценька-хуценька загаварыўшы, яна падалася ў свае палыны, але не села там, як звычайна, на пляскатым камені, а як ішла, так і пайшла далей, за вёску, пераступіўшы нарэшце лінію свайго абходу. Хапіліся Марылькі тады, калі Соня прыйшла ўдзень з работы. Накрычаўшы на Людку за ўчыненую гусямі шкоду, яна адправіла дачку за хлявы па Марыльку — каб хоць папалуднавала. Людка вярнулася ў хату разгубленая: Марылькі не аказалася на месцы. Не верачы дачцэ, Соня сама махнулася за хлявы. Марылькі і праўда не было — ні на яе месцы, ні паблізу двара. Тут налучыліся суседскія хлапчукі і сказалі, што бачылі старую — і даўнавата — аж за Пагостам. Гэта — за кілометры два ад вёскі.

Соня зусім разгубілася, не ведаючы, што ёй рабіць. Добра — якраз прыгрукаў трактарам на полудзень Коля. Ведама ж, трэба было не адкладваючы ісці шукаць Марыльку. Коля і палуднаваць не сеў — заспяшаўся пад Пагост. Услед за Колем падаліся і Соня з Людкай і меншым Славікам, суседзі. Да іх далучыўся і я. Гэта ж калі не знойдзецца да вечара, прападзе жанчына за ноч.

Была другая палова дня. Сонца, якое добра-такі прыпякала перад полуднем, цяпер і не адчувалася: яно ніяк не магло выблытацца з тонкіх, дзюнападобных воблакаў, што невядома адкуль панапаўзалі на высокае, прасторнае сёння неба. Было надзіва празрыста і ясна. І рэдкія старыя бярозы каля шляху, і лес за полем выразна выступалі на фоне неба. Ветру таксама не чулася. Цішыня і спакой. Як быццам нічога не здарылася, як быццам так усё і павінна быць.

Я збочыў з пясчанага, спаласаванага калёсамі ды машынамі шляху і ступіў на цвёрдую, як ток, сцежачку. Такіх сцежачак,

выбітых каровамі, якіх ганялі сюдой на пашу, было шмат — яны пакручастымі рукавамі разбягаліся паміж прыземістых, у пояс, маладых хвоек, што роўнымі радкамі ішлі ад шляху.

Паблізу рэдкага бярозавага пералеску, што вузкай палосай цягнуўся паўз шлях, сцежка ўлілася ў нешырокую калёсную дарогу, якая трохі зварочвала ўправа. Яна была зарослая драбнюткай муравой, трыпутнікам ды частай, з падсохлымі ўжо галоўкамі, дзяцелінай, і нагам у лёгкіх туфлях ступалася мякка і пругка — як па дыване. З хвайнячку, адтуль, дзе зелянелі травяністыя прагалкі, вабна пахла суніцамі, — іх там нямала, мусіць, наспелі на сонечным угрэве. Але цяпер было не да суніц.

Ідучы, я ўвесь час прыглядаўся па баках, зазіраў у міжраддзі лясной пасадкі, час ад часу сунімаўся і прыслухоўваўся, ці не чуваць дзе якога падазронага гуку. Але ў траве толькі стракаталі конікі ды часам пралятала, са слабым свістам рассякаючы паветра, якая птушка.

Збоку, у канцы пасадкі, далёка паадкідаўшы сваё голле, нерухома высіўся стары дуб-асілак, камель якога быў схаваны ў хвойным маладняку. Некалі пад гэтым дубам мы, пастушкі, ставілі на стан цялят ды авечак, забаўляліся на сіўцы, раскладвалі агонь. А ці не магла і Марылька зайсці сюды — надта ж утульная і зацішная там схованка?

Але не, не было там Марылькі. Пад нізкімі галінамі дуба рыжэлі метлюкі, сярод якіх там-сям прасвечвалі зялёныя стрэлкі старой жорсткай пажарніцы. Між сцяблінак гэтых метлюкоў і пажарніцы (зблізку трава аказалася не густой, як здавалася) ішлі ў бок камля чыстыя, як выгладжаныя на белаватым пяску, мурашыныя шляхі, паабапал якіх усё было як выпалена агнём. На кожным з тых маленькіх шляхоў цягнуліся па два жывыя неперарыўныя ланцужкі мурашак — адзін да дуба, другі, сустрэчны, — ад яго: па ўсіх правілах вулічнага руху. Прыгледзеўшыся, я ўбачыў, што гэтыя ланцужкі віліся і па камлі дуба, у расколінах старой каструбаватай кары. Я пастаяў, захапіўшыся гэтым несціханым жывым рухам, і зноў пакіраваў назад, да дарогі.

Хутка я пачуў крыкі шукальнікаў. «Ого-го-о-о-!» — даносіўся голас з аднаго боку. «Эге-ге-е-э-э!» — ляцела з другога. А недзе зусім блізка пачуўся мне галасок Колевага Славіка: «Баба Марылька-а-а!» Відаць, мне таксама трэба б было пагукаць — а раптам пачуе ды адгукнецца. Але калі клікаць, то, мусібыць жа, і праўда па імені лепей. Як Славік. Толькі як называць яе мне? Проста — Марылька? Не, на гэта неяк язык не паварочваўся — усё ж намнога старэйшая за мяне. Я наогул

не ведаў, як мне паводзіць сябе ў адносінах да Марылькі. Хоць я і разумеў, што яна здзяцінела, што б ёй ні казаў, усё роўна да яе не дойдзе, тым не менш, калі сустракаўся з ёй пры двары, неяк не мог, каб не даць «добры дзень», на які яна не адказвала. Цяпер, нічога іншага не прыдумаўшы, я пачаў гукаць: «Цётка Марылька-а-а!»

Прыглядаючыся па баках, прыслухоўваючыся, падаючы раз-пораз голас, я дайшоў да Дзялянак, што былі засеяны жытам. Дарога цяпер павяла мяне паўз лес. З аднаго боку на мяне глядзелі выгоністыя хвоі з густымі рыжымі верасамі і лапінамі брусьнічніку паміж чырванаватых камлёў, з другога — упоравень з плячамі — густа тоўкся, нібы на якім кірмашы, многагаловы натоўп белаватых жытнёвых каласоў, якія датыкаліся адзін да аднаго з лёгенькім павевам ветру. У вачах аж замітусілася — каласы, каласы...

Я мінуў Дзялянкі, прайшоў старой, з ледзь прыкметнымі каляінамі, дарогай праз пануры і голы, без адзінай травінкі ўнізе, ельнік, ад камлёў якога тапырыліся сухія сукі-патырчакі, і выйшаў нарэшце — блізкі свет! — на Юлікава поле. Выйшаў і міжволі спыніўся. Усё вялізнае поле — ад ног і да няблізкага балота — было белае. Нібы тут, у зялёнай кайме лесу, нейкім чынам узяў ды выпаў сярод цёплага лета добры, у калена, снег. Гэта цвіла грэчка. Белае поле пад белым ад воблакаў небам! І яшчэ дзіва: грэчка проста гула ад пчол! Здавалася, усе, якія ёсць, пчолы наваколля зляцеліся сюды, на гэту белую кіпень духмянага цвету. Бываючы да гэтага за вёскай, я заслухоўваўся бясконцым манатонным гудам, што, нібы нябачная тысячаструнная арфа, ад рання да вечара вісеў над галавой, у вышыні. Але як ні напінаў я вуха, не мог разабраць, у якім напрамку ішлі пчолы. Аказваецца, вось куды кіравалі — на грэчку! Яны неадступна кружыліся каля кожнага лапушыстага кусціка, густа абсыпанага цветам, невядома адкуль, як з неба дождж, ападалі і ападалі на густыя суквецці і з ходу ўшываліся ў дробненькія кветачкі, хутка адрываліся ад іх, кідалі сябе на новыя і новыя, не марудзячы ні секунды — ім сёння гадзіла.

Як хораша было мне ісці сярод гэтага несціханага гуду, які стаяў цяпер на зямлі, каля самых маіх ног, — дарога праставала па полі. Хацелася прылегчы тут, у цёплай разоры, сярод буйнага, такога пахкага цвету, каб слухаць і слухаць тую простую пчаліную музыку, чароўную песню жыцця. Але ж мне трэба было шукаць Марыльку.

Марылька... Зноў успомнілася яе доля. Падумалася: а можа, яна таму сышла з дому, што пачула ўжо сваю смерць? Так, як

гэта робяць звяры, ідучы паміраць у далёкія бураломныя нетры, нібы раствараючыся там з самой прыродай?

Свет, які недзе адкрываўся ёй цяпер перад вачыма, быў, ведама ж, знаёмы да самых малых драбніц. Пражыўшы тут увесь свой век, яна безліч разоў абышла ўсе куточкі нашых ваколіц, ведала ўсе грудкі і канаўкі, усе лясы і пералескі, усе ўрочышчы бярозавапасецкіх угоддзяў. І не толькі ведала — рукамі перабрала на палетках кожны грудочак зямлі. Як мне расказвалі старыя людзі, тут жа гадоў семдзесят назад стаяў пракаветны лес. І ад гэтага лесу трэба было адваёўваць — лапік за лапікам — зямлю. Усім — і малым, і старым — давялося добра папарваць тут жылы пры раскарчоўцы пнёў, папагрэбціся ў той закаранелай няўдобіцы. Ды і пасля таго, як лес стаў полем, яно патрабавала рук ды рук. Вядома, нямала папавярэдзіліся тут і Марыльчыны рукі. Тут яе дом, яе дзяцінства, маладосць, яе жыццё. Яе родная зямля...

Не знайшоўшы Марылькі ў сваім абходзе, я падаўся нацянькі ізноў да шляху.

Светлая пляма ў воблаках, дзе хавалася сонца, апускалася ўжо к лесу. Пачынала пакрысе цямнець. Асабліва прыкметна гусцеў змрок у дрэвах, куды я заглядваў. Яшчэ гадзіна—другая, і ўжо нічога не ўбачыш.

На шляху я пачуў галасы і пайшоў на іх. Гэта сустрэліся Коля і суседскі хлопец Вадзя. Яны, як і я, прайшлі па вызначаных маршрутах і не знайшлі ніякага следу Марылькі.

— Што ж рабіць? — пытаўся Коля, у вачах быў адчай, ён увесь час глядзеў па баках, тапырыў вуха на любы гук з лесу. — Пойдзем кустамі ў бок вёскі. Калі не знойдзецца — трэба будзе запальваць квачы.

Яго худы, вастраваты твар, здавалася, яшчэ больш выцягнуўся, зрабіўся цёмны, зямлісты...

— Коля, вазьмі гэта пячэнне, — намацаў я ў кішэні тры галеткі, што выпадкова засталіся там. — Ты ж не еў з раніцы. Хоць голад прагані.

Коля няўцямна ўзяў іх, патрымаў у руках, але, зразумеўшы, што гэта, падаў мне назад.

— Не хачу я есці. Не трэба...

— Вазьмі — не выдумляй.

Ён адкусіў адну, пачаў жаваць — бяздумна, па прывычцы, а потым рука сама сабой апусцілася ў кішэнь, паклала там галеткі. Раптам з боку вёскі пачуўся тонкі дзіцячы галасок:

— Татка-а-а!

— Эгэ-гэ-гэ-э-эй! — адразу ж адгукнуўся Коля і, спатыкаючыся, выбег з абочыны на шлях. — Я ту-ут, Лю-юдка!

— Ідзіце сюды-ы-ы! Знайшлася баба Мары-ы-ылька!..

Знайшла Марыльку Соня. Старая, адышоўшы кілометраў пяць ад Бярозавай Пасекі, села на край даўнейшай, зарослай травою канавы на лясным прагалку і пачала ўжо рваць каля сябе метлюкі ды слёзкі, складваючы іх у роўныя пучкі. На прыполе ляжала ў яе і «лялька», з якой даўно ўжо не разлучалася. Пра дом яна і думаць не думала. Але каб і ўспомніла пра яго, то самой ужо ніколі б туды ёй не вярнуцца.

Калі мы прыйшлі ў вёску, ужо амаль сцямнела. Чуўся рып калодзежных жураўлёў ды тонкі і выразны звон тугіх струменьчыкаў аб дно бляшаных вёдраў: жанкі даілі кароў.

За агародамі на ўскрайку неба, там, дзе зайшло сонца, белым агнём дагаралі над лесам рэдкія прадаўгаватыя аблачынкі, ледзь прыкметна зацягваючыся роўнай матавай сінізной.

Ізноў паказвала на пагоду.

* * *

Пасля таго я не раз прыязджаў яшчэ ў сваю вёску. У адзін з такіх прыездаў, ходзячы, як звычайна, паўз двор Акулоўскіх, я адчуў раптам, што тут нешта было не так, нешта змянілася. Я не адразу зразумеў што. Толькі потым мне цюкнула: гэта ж, колькі ні праходзіў, я ні разу не бачыў каля двара Марылькі.

— Ох, я ж і забылася табе сказаць, — схамянулася маці, калі я папытаў яе дома пра гэта. — Няма ж ужо Марылькі. З месяц як пахавалі.

А сталася вось што. Марылька, якая пасля таго быццам бы ўжо супакоілася, аднаго дня ізноў сышла з дому. Шукалі яе дзень, шукалі два, але гэты раз ад Марылькі і следу не было нідзе. Знайшлася яна толькі на чацвёрты дзень, за кілометраў дваццаць ад дому. Пры дарозе, што вяла на Слуцак. Пры той самай дарозе, па якой некалі павезлі на згубу яе Імполю, па якой дарма кінулася яна тады яго выручаць... Знайшлі яе чужыя людзі. Толькі нежывую. Ляжала яна каля дарогі на пабялелым ужо сіўцы пад маладымі бярозкамі, абсыпаная іх жоўценькім лістам (была, як і тады, калі яна першы раз сюдой ішла, восень), ляжала, падкурчыўшы ногі, падклаўшы пад галаву руку — нібыта спала. Другой рукой яна туліла да сябе нешта загорнутае ў шматок палатна. Калі людзі расхінулі гэты шматок, то са здзіўленнем убачылі бярозавае палена... з завязанай «хусткай»...

Тады ж, у адзін з цёплых летніх надвячоркаў, я стаяў на вуліцы і гаманіў з суседзямі. З-за хаты Акулоўскіх (там якраз быў уезд у вуліцу з загумення) выкіравалася падвода. Збоку, трымаючы ў руках лейцы, ішоў Коля — ён толькі што вярнуўся

ад свайго трактара, на якім тарахцеў усю змену за сядзібамі. «І ўпынку, бач, на яго няма, — падумалася мне, — не паспеў паставіць трактар, як ужо каня ўпрог некуды».

На возе, засланым травою, з надарванага трохі мяшка нешта забялела.

— Ты што — муку некуды вязеш? — папытаў я.

— Ну — муку, — ухіляючыся ад адказу, як бы жартуючы, сказаў Коля. — На базар вязу.

— Ды гэта ж цэмент, — растлумачыў мне Вадзя, калі Коля ад'ехаў. — На помнік для Марылькі павёз.

Так яно і было. Праз колькі часу я ўбачыў гэты помнік на могільніку. Цэментавы, трывалы. На ім — акуратна, вялікімі пазалочанымі літарамі, былі выбіты імя, імя па бацьку і прозвішча Марылькі. І трошкі ніжэй — дата: «1903—1976». Я разумею Колю: павінны ж і дзеці, і ўнукі ведаць, што ў іх радні быў такі чалавек — Акулоўская Марыя Лявонаўна.

*1976–1987*

# ДЗЕ ДУБ З БЯРОЗАЙ ЗВІЎСЯ

*Спроба паэмы*



1

Яго падняў прамень, што скрозь самкнёных
Бяроз ды грабаў паднавес зялёны
Прашыўся, сонца ранняга пасол,
І ў гушчыні травы, што ўкрыла дол,
Шчаку салдата адшукаў знянацку.
Салдат, што спаў зусім не па-юнацку,
Аж сцяўся ўвесь ад дотыку таго:
Хто ж мог і тут дапільнаваць яго?
Калі ж уцяміў, хто, на ўгрэтым голаў
Зноў прымасціў, ды спаць не даў больш холад,
Які ўсяго праняў за ноч. Салдат,
Што ўжо зубамі малаціў не ў лад,
На ногі ўстаў, ад холаду плячамі
Павёў — худы, з упалымі вачамі,
З забінтаванай леваю рукой,
У рванай гімнасцёрцы, на якой
Свяцілі куль аўтографы, цямнелі
Сляды жывыя вогненнай мяцелі.
Ён не марудзіў тут: зноў клікаў шлях.
Па сонцы шлях ён вызначаў, па пнях.
Ішоў лясамі ціхімі, балотам,
Мясіў дрыгву густую цяжкім ботам.
Ішоў, ішоў. Без сцежак, нацянькі,
Мінаючы жытло — што звер які...

Між дрэў бы пасвятлела. Азярко?
Ці неба схон? Туману малако
Бялелася ў лагчыне за лістотай.
Ён адхінуў лазовы куст употай:

Згінаючыся ўперадзе дугой,
Цягнуўся луг палосаю даўгой
Між лесу векавога, што так гожа
Стаяў паўзбоч жывою агароджай.
Ды гэта ж Шыі! Як жа не пазнаць
Было іх — вёскі роднай сенажаць?
Сюды ж не раз і ён з касой прыходзіў —
Да цёмначы званіў тут, на выгодзе...
Луг быў яшчэ ў цяні, хоць сонца лес
На тым баку ўжо асвяціла спрэс
(Здавалася, пагрэўся б там). Ад лесу
Да ног салдата — у расе бялесай,
У цішыні — ішоў сцяной густой
Не крануты касою травастой.
Тут, на грудку, бліжэй да хвой смаловых
Быў дол увесь у купінках сіўцовых,
На выгляд — мяккіх, ды касіць сівец
Зусім не ўсякі возьмецца касец:
Каса — паўзверх, паўзверх — ад купін коўзкіх
Так і адскокваць будзе, што ад косткі.
Яго ўзяць можна хіба што з расой,
Як брытва, адкляпанаю касой.
Крыху ніжэй, дзе трохі больш вільготна,
Сваё ўжо месца уступаў ахвотна
Сухі сівец асочцы лугавой,
Яшчэ не пацвярдзелай, сакаўной.
З травінкамі шаўковымі асочкі
Мяшаліся маркоўнік, хвошч, званочкі,
Там-сям свяціў злыселы дзьмухавец,
Рыжэлі метлюкі, жаўцеў званец
Каробачкамі-кветкамі, бялелі
Галоўкі дзятлавіны, што здалелі
Прабіцца з той гушчэчы... Эх, касу б
Цяпер сюды, у гэтую красу!
Ён да травы б яе прыклаў спачатку,
Прымерыўся б, націснуўшы на пятку,
Адвёў бы ўбок — ці ж гэта ўпершыню? —
І ў росную пусціў бы гушчыню.
Мурог-мяшанец, сцяты вострым жалам,
Так і лажыўся б тут пракосам-валам...
Але салдат, хоць не адразу й змог,
Ступіць тут мусіў ботам на мурог
І вось па ім — ці ўзнімецца? — сцяжыну
Павёў — ну й варвар! — праз усю лагчыну:

Дайсці, дайсці — адно яго вяло
Жаданне ўперад, іншых не было.

Цяпер з закрытымі вачамі нават
Ісці ён мог бы: кожная канава,
Сцяжынка кожная, паплоўчык, груд
З малых гадоў былі знаёмы тут.
Вунь белы мох між хвой, што паасобку
Стаяць, чырванастволыя, на ўзлобку.
У гэтым мху пад восень, па дажджах,
Растуць баравікі што на драждждах.
Як добра пахадзіць парой грыбною
Было цямком тут з лубкаю-сяўнёю!
Аж сэрца ёкала ў яго, калі
Ён неруш дзе знаходзіў пры камлі...
А во кусты арэшніку, ля дуба —
Да іх было калісьці гэтак люба
Сцяжынкай затравелай забрысці
Ды лузанцоў намацаць у лісці.
Хоць заглушыў кусты бярэзнік гонкі,
Там спелі і цяпер арэхаў гронкі...
Во роў, зарослы лазняком, ставок.
За ім — палянка... Гэта ж ён, Станок.
Дзе здаўна ў тым унь астраўку альховым
На стан дуброўцы ставілі каровы...
Што ж трэснула цяпер там? То ж ізноў
Былі яны! Сюды ад аваднёў
Зашыліся. Як колісь... Колісь? Дзіва:
Мо з месяц і прайшло ад той жахлівай
Мяжы, што раптам аддзяліла ўсіх
Ад мірных дзён, ад клопатаў былых,
А ўсё, што ні было перад вайною,
Здавалася такою даўніною!..

Ля хмызняку пастух хадзіў і — так,
Без дай прычыны — пугай наўскасяк
Па лісцях сцёбаў. Да яго ўцвярдзелай
Палянкай-ялавінай, што рыжэла
Ад метлюкоў, папраставаў салдат,
Сустрэчы блізкае з вяскоўцам рад.
Ужо гукнуў яму, не вельмі й ціха,
Ды той не абярнуўся. Што за ліха?
І тут пазнаў салдат: то ж быў Сымон!
Равеснік і сусед амаль што. Ён

Калісь малым, упаўшы з печы, гоцнуў
Спіною аб падлогу, ды так моцна,
Што, небарака, добра з дня таго
Недачуваў. Калі салдат яго
Даклікаўся, вяскоўца не адразу
Пазнаў Сымон:
— Алесь?!
З яго расказу
Алесь — так звацьму ўжо салдата й я —
Дазнаўся: ціха ў вёсцы, і сям'я
Ягоная і жыва і здарова...
Ён лес мінуў, і вот ужо Дуброва
Адкрылася пагляду — стрэхі хат
Шарэлі ў буйнай зелені прысад.
Вунь і яго сядзіба — дзве старыя
Каля палосы ліпы межавыя
(У спёку там, на халадку травы,
Такі цянёк-прытулак для дзятвы).
Самой жа хаты ён пакуль не ўгледзеў:
За вуліцай яна стаяла недзе...
Калі ўжо ён ступіў на свой загон,
Што бульбаю кусціўся, калі ён,
Не верачы ўсё, сон гэта ціява,
Ішоў разорай-сцежкай халаднавай,
Што сам жа плугам выструніў вясной —
Так, так, яшчэ тады, перад вайной, —
Ад вуліцы па бульбе, па капуснай
Градзе маланкаю ляцеў насустрач,
Раз-пораз падаючы неўзнарок,
Хлапчук у зрэбных портачках.
— Сынок!..
Як бег, так к бацьку й кінуўся, нялоўка
У грудзі торкнуўшыся галоўкай.
— ...Пятруська!
Сына тулячы рукой,
Ішоў Алесь да хаты, ля якой
Гануля тупала (здалёк убачыў):
Аб ім яна не ведала, няйначай.
І толькі як варотцы адшчапіў,
Як — з сынам на плячы — у двор ступіў,
Угледзела Алеся нечакана.
Аж войкнула ад неспадзеўкі Ганна,
Збан выпусціўшы з рук... Расказу ніць
Я перарву на момант, бо ўявіць

Тут можна й так, якое шчасце стрэцца
Пасля нягод разлучаным двум сэрцам,
А бацьку дома зноў абняць сваіх
Дзяцей малых — было ж чацвёра іх.

Рукам яго былі прывычны толькі
З малых гадоў каса ды плуга тронкі,
Сявенька-лубка, вілы, цупкі цэп...
Ён знаў адно: рабіць у свеце хлеб.
Ды іншая яго чакала доля...
Ужо ступаў той завірушны час,
Калі зямлі ўсёй ліха з нор на волю
Патайна выпаўзала на папас.
І на людзей, на белы дзень, на мары,
На гарады, гады, на цішыню,
Рвучы нябёсаў сінь, ляцеў з-пад хмары
Шалёны шквал металу і агню.
Хто выпусціў вайны ліхога д'ябла?
За грэх які ўсхадзіўся ліхадзей?
А мо гэта расплата за нядбаласць,
За легкавер'е, слепату людзей?
Далі сябе прыспаць уладакрадам
(О як грымелі ў свеце іх званы!),
Галовы затлумілі іхным чадам,
У павуцінне трапілі маны.
І вось на чарапы — жалеза касак:
Раўняйся! Па  калонах! Марш, марш, марш!
І людзі ўжо — не людзі. Проста маса —
О колькі зведала зямля тых мас!
1 гэту масу — крок які чаканны! —
Па нівах ціхіх — хто раскрые рот? —
Вар'ят са свастыкай пад барабаны
Пакіраваў на ўсход, на ўсход, на ўсход!..

Алесь прызваны быў тады, як хмары
Згушчаліся шчэ толькі над абшарам.
Хадзіў ён на «Заходнюю» — «братам
Руку падмогі працягнуць»: каб там
Узнесці сцяг, чырвоны... З Беларусі
Пасля на поўнач ён падацца мусіў —
На фінскую, бязглузднейшую... Шмат
Дарог ён змераў вогненных, салдат.
Не ўспеў ён адысці душою дома
Ад паху дыму і крыві, ад грому

Гармат, не ўспеў надыхацца як след
Паветрам гоняў родных, як зноў свет
Скрозь зашугаў пажарамі...

Зноў:
— Рота!
Не адставаць! Жвавей, жвавей, пяхота!
У свеце ўзроеным пад небасхіл
Каціўся шляхам ботаў стук ды пыл,
Што даль заслаў. У пыле тым сівым
Былі ў салдат падсумкі, гімнасцёркі —
Блішчалі толькі на пілотках зоркі
Ва ўсіх агнём рубінавым сваім.
З-пад выцвілых — таксама ў пыле — броваў
Глядзелі вочы ўдалячынь сурова:
Ад грукату, што далятаў здаля,
Нібы жывая, ўздрыгвала зямля.

— Жвавей, жвавей!
Хаця сышлі ўсе потам,
Прывалу не даваў байцам камроты:
Заняць жа абарону — быў загад —
І каб адтуль ні кроку ўжо назад...
Ды раптам там — на новым рубяжы тым,
Ля пералеску рэдкага, за жытам —
Чужая зброя бліснула, і ўміг
Па стомленых байцах, па зорках іх
Град паласнуў свінцовы...

Быў няроўны —
У чыстым полі — гэты бой раптоўны:
На грай агню — нямоўчная сцяна! —
Былі вінтовачкі — на двух адна,
Яшчэ граната мо ў каго — на ўдачу,
Кінжала сталь ды злосць хіба ў прыдачу.
Але здавацца ўсё ж ніхто з салдат
Не думаў тут.
— За мной! — На куляў град
Рвануліся байцы... Яшчэ ніколі
Не ведала жніва такога поле:
Не каласы — галовы навакол,
Падкошаныя, падалі на дол
Ад куль варожых тых... На рэштку роты,
Што там была залегла, танкі потым

Палезлі раптам... Што далей было,
Алесь не знаў: як мячык, узняло
І выбуховай хваляй нечакана
Закінула ў бяспамяць...

Калі ранак
Ступіў сюды назаўтра — з халадком
Расы жывой, з адвечным жаўруком —
Алесь ачнуўся. Ад зямлі, якою
Ён быў закіданы — чыёй рукою? —
Атросся, вочы ад пяску працёр
І, калі глянуў навакол, абмёр:
Нібы снапы, ляжалі скрозь па полі
Байцы-сябры, якім не ўзняцца болей...
Алесь, з магілы выбраўшыся той,
Кантужаны, з параненай рукой,
Куды ісці, не ведаў. Да якойсьці
Дадыбаў вёскі. Толькі што за госці
Хадзілі там? Здалёк пазнаў ён іх,
Гасцей няпрошаных, чужынцаў тых,
Што чуліся ўжо тут гаспадарамі...
Што ж аднаму рабіць было? Ярамі
Падаўся прэч. Ды колькі ні блукаў,
Ён анідзе сваіх не адшукаў...
Цяпер была ў яго адна дарога:
Дабрыць як-небудзь да свайго парога...

*

І сёння — праз гадоў заслону — ён,
Той Дзень, зіхціць мне зоркаю між дзён.
Вярнуўся тата! Гэтакага свята
Ужо даўно ў нас не бывала. Та-та!..
Як абляпілі мы яго ўсе ўраз!
Як гладзіў ён рукой здаровай нас,
А як свяцілася, як ззяла маці,
Разгубленая нейкая, па хаце
Мітусячыся, снуючы — туд-сюд.
Стол накрывала, несла ў красны кут
Кілішкі-шклянкі, з шафы даставала
Вясёлкі-ручнікі, што прыхавала...

Але назаўтра бацька раптам злёг —
Гарэў, шторазу кідаўся на ложку,

Крычаў у сне аб нечым, нават трошку
Тут сцішыцца, у цішыні, не мог.
І маці знемаглася ўся: нязменна
Пры ім сядзела — днямі і ўначы.
Ішлі вяскоўцы — як тут памагчы?
І слова сэрцы рвала нам — «гангрэна».
Зноў зацягнула неба нашых мар,
Зноў ноч бяззора глянула ў аконцы.
І ўсё ж праз колькі дзён, даўгіх, бясконцых,
Надзеі промень бліснуў нам між хмар:
Да памяці вярнуўся бацька, ціха
Загаварыў, аслаблены, да нас,
Ды хоць устаў ён, яшчэ доўгі час
Яго не адпускала тое ліха...

*

— Скажы, суседзе, як далей тут быць,
У тыле нам з табою? Што рабіць? —
Пытаўся бацька ў Юзіка крывога,
Што ведаў, пэўна ж, як і сам, нямнога.
— А што ты зробіш? Што цяпер нам дзеяць?
Пакуль адно: араць зямельку, сеяць!
Калі пасеем, пэўна ж, і сажнём.
Раз будзем жыць, то і бяду зжывём!

*

Ён выйшаў на парог. Ужо ўсплыло
У неба сонца — бліснула з-за ліпаў.
У Анці журавель знаёма рыпаў,
Звінелі вёдры па дварах. Сяло,
Як і здаўна, свой дзень распачынала.
Нібы вайны ніколі й не бывала.

К хлявам патупаў ён: што ж, трэба жыць,
Пакуль жывецца, ды дзяцей карміць.
Аглядваў гаспадарку. Так, з сям'ёй
Набытак ён прыдбаў, хоць не багаты:
Вяпрук з свіннёй унь рыюцца ля хаты,
Кароўка тут жа — час на пашу ёй.
Авечкі ў хлеве грукаюць — у поле,
На росную траву і ім пара.
Снуюць і куры во сярод двара.

І ўсё на гэтым. Можа, і даволі?
Боль галаўны цяпер яго: што даць
Жывёле ў яслі, дзе той корм прыдбаць?
З той пайкі ў Лузе, што сям'і ўдзялілі,
Брат з шваграм сена з стог мо й накасілі.
Яшчэ Гануля — рупная пчала —
Коп дзве сярпом на броўках здабыла.
Ды картапляніку, калі зжынала,
На азярод патрохі наўскідала:
Зімой як знойдзецца — з саломай ён
На сечку пойдзе, так было здавён.
Ды толькі да вясны мяцельным часам,
Ці ён дацягне з гэтакім прыпасам?
Што, як яшчэ да Стрэчаня ў хляве,
Б'ючы ў сцяну, карова зараве?

А мо яму на Луг ці на Канавы
Прайсці з касой ды пашукаць атавы?
Але, хоць на дварэ ўжо іншы час
І стаў цяпер абшчынаю калгас,
Усё адно далей ад частаколу
Свайго не ступіш разу без дазволу.
Унь нейк Адаміха ў прыпол была
Абшчынных буракоў з грады ўзяла,
Дык з Галіч немцы суд чыніць прыджгалі
І сярод вуліцы — усе каб зналі! —
Спалоханую бабу — іх закон? —
Паклалі ніц на вынесены ўслон
Ды, агаліўшы, — думай лепш аб працы! —
Сто бізуноў ёй улілі па срацы…
Алесь вярнуўся ў хату — што, і ён
Ісці чужынцу мусіць на паклон?

2

Дуброва сёння ўся ад узбуджэння
Гула, як вулей. А з чаго — было:
Дзяліць зямлю калгасную — прыйшло
Такое з воласці распараджэнне!
Ля клуба з шапкі — ну ж, каму які? —
Бы скарб, усе цягнулі нумаркі.
У кожным з іх — свая дзялянка поля,
Свая зямля, свой свет, свая мо доля.
Алесю выпаў шосты. І вось ён

Шукае на сядзібах свой загон.
Унь шэсць на паліку! Загон — што трэба!
Як вокам скінуць. І не з горшай — глеба.
З іржэўнікам — хоць збляклым, ды тугім,
З зялёнай канюшынкаю між ім.

Як і сядзібы, на манер во гэткі
Усе былі падзелены палеткі.
А з імі — сенакосы і ляскі.
Для працы ўсім цяпер — разгон такі!
Нібы акрылены, Алесь дзень цэлы
Лятаў, аглядваў так свае надзелы.
Быў нібы ў сне. Мо гэта Неба дар?
Няўжо і праўда тут ён гаспадар?
Няўжо не вол ужо, што толькі й знае,
Што, безгалосы, бізуна чакае?
Зямлю абмерваў ён ушыр і ўздоўж,
Ды сунімаўся часта: нібы смоўж,
Пад сэрцам штось — не, не, ды і смактала,
Як след парадавацца не давала.
Ці надаўга ўсё гэта? Пройдзе час —
І, можа, зноў пагоняць у калгас?
Ды і чаму во гэты дар-гасцінец,
Зямлю, яму ўдзяліў не свой — чужынец?

Ён звечара яшчэ кабылку ў двор
Прывёў, паднёс ёй сена перабор
І спаць пайшоў, ды сон яго адолеў
Не зразу: доўга мроілася поле.
Свая зямля! Яшчэ дзяды аб ёй
Спрадвеку снілі, аб зямлі сваёй…

Устаў ён досвіта. Яму заржала
З двара кабылка ціха — прывітала.
Ён шыю цёплую пагладзіў ёй.
Яна ў адказ цярнула галавой
Яму аб грудзі. І стаяла роўна,
Пакуль аброць ёй беражна ўздзяваў,
Хамут праз галаву прасоўваў, клаў
Сядзёлку на спіну, дугу прыладжваў
Да аглабель ды, вынесшы з гумна,
Ускідваў на калёсы бацькаў плуг.

І вось у ранак цёмны, безгалосы
Залескаталі па груддзі калёсы.
Гаспадара чакала ўжо зямля —
Алесь пазнаў надзел яшчэ здалёку:
У суцемку убачыліся воку
На ім лісточкі вострыя былля.
Ён перапрог кабылку ля надзела
І ў глебу ходкі плуг пусціў умела.
Нямое поле, лес непадалёку
З сябе здымалі ўжо заслону змроку.
Над цішынёй — спяшай жа, дзень, у лёт! —
Увесь у золаце, гарэў усход.
За плугам макраватай баразною,
Што пахла гэтак хораша зямлёю,
Ішоў Алесь. Кабылка галавой
Махала звычна ў такт хадзе цяжкой,
Пафыркваючы зрэдчас — ад аблогі
Адслойваў плуг палоску. Да дарогі
І зноў назад, пад лес — за кругам круг
Рабіў тут, на зямлі, нястомны плуг.
І з кожным кругам, з плуга паваротам
Усё шырэй была раллі чарнота.
Алесь спыняўся, з любасцю глядзеў
На свой, у свежых скібінах, надзел.
Сюды, ледзь ранак гляне сінізною,
Ён заўтра прыйдзе, рупны, з бараною.
Скакаць-круціцца будзе тут яна
Па гэтых скібах-грудах, барана.
Іх разаб'е зуб'ём, расшкуматае —
І поле стане, што пярына тая.
Тады зраўнянай пухкаю раллёй
Ужо ён ступіць, хлебароб, з сяўнёй.
У пух падатны той — за жменяй жменя —
Раўнютка будзе класціся насенне.
Пасля — хай сняцца залатыя сны —
Яго загорне зуб'е бараны.
Ды толькі спаць тут не дадуць зярнятам
Праменні сонца ды грамоў раскаты...

Араў Алесь. У прозалаці дня
Паблісквоў плуг. Такая цішыня!
А мо ўжо сціхла і ў вялікім свеце?
Мо ўжо во з гэтай сонечнай зямлі,
Адумаўшыся, людзі ўшчэнт змялі

Усіх вар'ятаў з бомбамі, як смецце?
І можна будзе смела людзям жыць,
Зямлю араць, страчаць зару, любіць?..

Ды думкі тыя, хлебароба мроі
У міг адзін крыж-накрыж перакроіў
Са свастыкаю чорнай самалёт:
Ён кіраваў туды, туды — на ўсход...
Алесь, глыбей пусціўшы плуг у глебу,
Суняў кабылку. Скамянела ў неба
Глядзеў. Сачыў, як меншыўся штоміг
Ён, самалёт, між воблачкаў нямых.
Пасля растаў зусім за хмаркай белай.
А ён, Алесь, усё стаяў здранцвела...
Ды толькі што рабіць яму было?
Ізноў за плуг узяўся. Хоць пякло
У плечы сонца, дааараць палосу
Усё ж хацеў. Ізноў ступаў ён, босы,
Па халадку разоры. Роўна плуг
У глебе шаргацеў, слухмяны друг.
Часамі ён то чыркаў дзе аб камень,
То купіну чапляў — Алесь рукамі
Яе, спыняючыся, адкідаў
Ды плуг ізноў у глебу запускаў.

Але араў ён сёння без ахвоты:
Рой думак неспакойных ад работы
Яго адводзіў, рукі паслабляў —
Рабіць так, як патрэбна, не даваў.
Нарэшце круг апошні. Бы чаўнок,
Плуг вyслізнуў з зямлі. Яго на бок
Алесь паклаў, паслабіў трохі лейцы,
І за кабылкай весялей улегцы
Плуг паскакаў па грудах. Ля раўка
Да пырніку — зялёнага чубка —
Падбегшы нават трошачкі, прыпала
Аюта (так сям'я кабылку звала).
Алесь, таксама ўтомлены, прылёг
На ялавіну, на зязюльчын мох.
Над галавой у небе, чыстым, ясным,
Кружыў — маленькай кропачкаю — ястраб.
Ляталі стайкамі — то там, то тут —
Шпакі, штоміг мяняючы маршрут.

Збіраліся ў адлёт... Усё як трэба
Пад гэтым вечным, пад блакітным небам...

Калі па лесе ён між буралому
Вяртаўся ўвечар нацянькі дадому
Дарогай, што карэнні аплялі,
Перад калёсамі, бы з-пад зямлі,
Раптоўна вырас чалавек. Аюта
Убок рванулася ў спалоху крута.
Ды тут жа стала: незнаёмец той
Трымаў намёртва ўчэпістай рукой
Яе ўжо за аброць. Вачэй бялкамі
Вадзіла толькі. Ды жывот рыўкамі
Хадзіў задыхана. Алесь з калёс
Саскочыў: і каго тут чорт прынёс?
Сустрэчны быў хаця і нізкаваты,
Ды ладна збіты, моцны, жылаваты.
Немітуслівы, ўпэўнены пагляд.
З пляча звісаў нямецкі аўтамат.

Не ўспеў Алесь сказаць што, як з-пад куста
Яшчэ адзін устаў яму насустрач.
У гімнасцёрцы, праз плячо — рамень.
З фуражкі бліснуў зорачкі прамень!
Мажны, сутулы, з круглым тварам поўным.
Чакай, чакай! Дык гэта ж, мусіць...
— Доўнар?!
Так, гэта праўда Доўнар быў, нядаўні
(Год з пяць прайшло?) дуброўскі іх настаўнік.
Яны раднёю нават дзесь былі —
«Дзесятая вада на кісялі».
Ды мала зналіся паміж сабой —
Быў шлях у свеце ў кожнага з іх свой.
Пакінуўшы настаўніцтва і вёску,
Ён, Доўнар, потым апынуўся ў войску.
І вось цяпер ізноўку тут, у лесе.
Як свой свайму, руку падаў Алесю.
— Даўно хацеў сустрэць цябе, браток, —
Казаў ён, ведучы Алеся ў бок
Ад зімніка таго — пад маладыя
Сярод алешніку дубкі густыя
На колішняй палянцы. І калі
Яны прыселі на таўстым камлі
Сасны, што бура вывернула, Доўнар

Яму паведаў без прадмовы доўгай,
Што ён зусім невыпадкова тут
І недарма прысланы ў гэты кут.
Падняць людзей на барацьбу з навалай
Фашысцкай, што зямля яшчэ не знала,
Уратаваць айчыну ад бяды,
Ад рабства, ад палону, ад жуды —
Такая сёння ставіцца задача:
Свабода або смерць — і не іначай!
Ён тут, у гэтых месцах, распачаць
Павінен партызанку — каб не даць
Жыцця фашысту ў нашым родным краі.
Мы самі тут гаспадары. Хай знае:
Хаця ён сілай нас заняць і змог,
Ды Беларусь усё ж не перамог!..
— Табе, Алесь, заданне ёсць таксама,
І небяспечнае, скажу я прама.
Ды ўсё ж ты справішся, я веру, з ім:
Быць у Дуброве нашым сувязным.
Быць сувязным — а гэта, браце, значыць:
Усё, што немец робіць, чуць і бачыць.
І тут жа нам дакладваць. Ну, а як,
Дамовімся — усё ж ты мой сваяк.
— Не, Павел, мусіць, я адваяваўся.
Не знаю во, як і жывы астаўся.
Дый дзеці ж у мяне. А буду знаць
Пра немца што, магу і так сказаць.
— Хай так… — І кожны з іх сваёй дарогай
Пайшоў адтуль. І са сваёй трывогай.

3

Дні карацелі ўжо. Паблякла сінь
Паміж аблок, што ўсё кудысь ляцелі.
За гумнамі ад холаду трымцелі
Галіны пасінелыя асін.
Часамі вецер знекуль, бестурботнік,
На прыгуменне раптам прылятаў,
Кідаўся між будынкаў, шкуматаў
Страху гумна, заскакваў на дрывотнік
І, закруціўшыся ваўчком — віхор! —
Па-над зямлёй, вясёлы забіяка,
Імчаўся — прэч з дарогі, разявака! —
На чарнапуст сядзібаў, у прастор.

Дзе ён гуляў, хто ведае, той вецер,
Але праз дзень, вярнуўшыся, з нябёс
Ён снегу хмары белыя прынёс,
Рассыпаўшы яго па цэлым свеце.
Зіма... Снег белізной укрыў раллю,
Густую рунь, іржэўнік неўзараны,
Лугі з ракітнікам, лясы, паляны,
Усю, вятрам адкрытую, зямлю...
У бель снягоў прыбраўшыся — абнова! —
Прыціхла між снягоў нямых Дуброва.
Над хатамі ўставалі з камінoў
Дымы слупамі — як спакон вякоў.
Парыпвалі вароты, сенцаў дзверы,
Ляцеў — з чыйго падворка? — стук сякеры...
Бы й не было вайны, але яна —
Не, не — нідзе не згінула, вайна.
Аб ёй ніяк забыцца не давалі
Назолы-немцы з недалёкіх Галіч.
Там, на паўстанку, быў іх гарнізон,
І пад «апеку» ўзяў Дуброву ён.

*

— У дровы з’езджу, — так сказаў ён Ганне,
Ускінуў цёплы кажушок на плечы
І, холаду пусціўшы праз парог,
У ранак белы дзверы расчыніў.
Аюта ў стайні бы яго й чакала —
Заржала, радая, яму насустрач.
Калі ж, зайшоўшы, ён уздзеў аброць,
Ахвотна ў двор патупала за ім.
І вось па снезе сыпкім нібы самі
Пабеглі лёгка сані за Аютай.
Беразаку ды вольхаў мог Алесь
І ля Пагона наваляць як бач,
Ды ён мінуў Пагон, мінуў Альхоўку
І скіраваў кабылку аж пад Хімры —
Лес, што казённым звалі ў нас яшчэ,
Бясконцы лес мяшаны. Ён цяпер
Маўчаў, закіданы найчыстым снегам.
І толькі дзяцел недзе нетаропка
Абстукваў сухадрэвіну ды з хвой,
Што паўз дарогу сталі з двух бакоў, —
Трашчала зрэдчас шустрая сарока,

Па голлі скачучы: так ёй цікава
Было зірнуць, хто ўздумаў завітаць
У гэта царства белае яе,
Ды мо хоць трошкі папужаць. Алесь жа
І не зважаў на той сарочы строкат,
Далей у лес кабылку паганяў —
Быў, балазе, шчэ не глыбокі снег.
Ля Луга ў хмызе прыпыніў Аюту,
Да хвоі навязаў, ахапак сена,
З саней узяўшы, кінуў перад ёй
(Яна адразу ж занялася ім)
І з тапаром пайшоў сабе выглядваць
Бярэзіну гладчэйшую. А доўга
Шукаць яму не трэба тут было:
Унь колькі скрозь іх, харашунь-бяроз!
Ды перш чым секчы з іх адну, пастукаў
Ён па камлі абухам з усёй сілы —
Аж здрыганулася бярэзіна,
Сыпнуўшы снегу за каўнер з галля.
Счакаўшы, зноў Алесь вось так пастукаў,
А потым, у далоні папляваўшы,
Пайшоў гасіць па дрэве тапаром —
Аж трэскі паляцелі наўкруга.

— То мо пара суняцца ўжо! — Няспешна
Алесь на голас гэты распраміўся,
Сякеру апусціўшы: ля яго
Стаяў з усмешкай Доўнар — як жа ён
Так падышоў нячутна? — Ну, дзень добры! —
Пацiснуў ён руку Алесю моцна.
Прыселі на бярозу, што спусціў
Алесь. Ён першы і загаварыў:
Яму карцела Доўнару паведаць
Пра Парахню. Яго ў Дуброве немцы
Зрабілі старастам. Ды хтось данёс,
Што й парцізанам ён дапамагаў.
І вось прымчалі з Галіч на машыне
«Апекуны», схапілі «сувязнога»
І ў Дрычыне павесілі.
— Ну й што ж?
Мы на вайне, а без ахвяр, Алесь,
Вайны, сам знаеш добра, не бывае.
Край трэба вызваляць нам ад чужынцаў.
— А для каго? Сюды на месца іх

Каб іншыя прыйшлі «апекуны»
З вяроўкаю сваёю?.. — На «заяву»
Такую Доўнар што сказаць, не ведаў.

Пад палазамі снег парыпваў хрусткі, —
Хоць цяжкі воз быў, ды ішла Аюта
І йшла, натужваючыся. Алесь,
Накінуўшы на дровы лейцы, збоч
Ступаў, пры возе. Дзень быў ясны, з сонцам.
Яно між дрэў ішло, — то прападала
За хвоямі, то выплывала зноў,
Свяціла хораша ў беразаку.

Каля Альхоўкі, на дарозе проста,
Алесь раптоўна ўбачыў чалавека.
У шапцы чорнай — форменка, ці што? —
У світцы, за папругаю тапор.
Стаяў — відаць, чакаючы Алеся:
Хто ж мог яшчэ быць у глухім бязмоўі?
І тут пазнаў Алесь: ды гэта ж ён,
Іх новы староста — Стахноўскі. Не, Алесь
З ім не хацеў бы ўсё ж тут сустракацца...
Ды ці ж яго тут абмінеш, аб’едзеш?

Стахноўскі! Ды адно яго імя
У дрыжыкі кідала ў вёсцы ўсіх.
Служыў ён лесніком раней. Пануры,
Заўсёды злы, са сцятымі губамі.
Глядзеў звычайна спадылба ён. І ніхто
Не бачыў, каб смяяўся ён калі.
І як ён у сям’і жыў? Ён жа бацькам
Быў пяцярых дзяцей — дзяўчынак, хлопца.
У трыццаць сёмым быў занятак ён
Займеў — страчыць паклёпы на людзей.
Хто перайшоў калі яму дарогу,
Не гэтак глянуў, зачапіў дзе словам —
Усіх, прышыўшы нейкі свой ярлык,
Рабіў народа ворагамі ён.
Сапхнуў быў нават старшыню калгаса —
Гаспадара, якіх нямнога знойдзеш, —
І сам на месца тое заступіў:
Камандаваць хацелася людзьмі.
А немцы вось прыйшлі, Стахноўскі неяк
Падпоўз, як вуж той, і да іх таксама,

Прымазаўся, выслужвацца пачаў —
Што ж можна ад яго чакаць цяпер?

— Дык гэта ты? Далёка так — у дровы?
Вядома, тыя дровы — толькі прыклеп.
Напраўду ж — ездзіў ты да партызан!
Маленькую нараду правялі...
Ага, ты ўвесь збялеў! Ну, ну — не бойся!
Не выдам я — хай будзе шыта-крыта!
— Што ты вярзеш, Стахноўскі? Пра якіх
Ты кажаш партызан? Што за яны?
— Ну, не прыкідвайся! Кажу пра тых,
Што ў Хімрах!
— Мо і бачыў ты, а я
Пра іх во першы раз, дальбог жа, чую!
Ты на мяне не ўзводзь дарэмна гэта...
— Ну, я пажартаваў...— Тут першы раз
Алесь усмешку ўбачыў на яго
Скуластым твары. Толькі як Стахноўскі
Пайшоў далей пружыністай паходкай,
Адчуў Алесь, як раптам па спіне
Пабеглі дрыжыкі: няўжо ж такі
Пранюхаў праўда? Не, ён так купляе
Яго, Алеся, толькі. Быць не можа,
Каб што ён бачыў. Ну, а ўсё ж, а ўсё ж...
І гэта «ўсё ж» было — што ў сэрца нож.

*

Пра клопат бацькі, пра трывогі тыя
Што ведаць мы тады маглі, малыя?
Адно вядома нам было ў той час:
Раз тата ёсць, бяды не будзе ў нас.

Нам добра так гулялася зімою,
Што свет укрыла чыстай белізною.
Яна нас звала з санкамі — у снег,
У безліч іскраў сонечных, у смех.
На прыгуменні — там такія гурбы! —
Былі ўсе нашы — да змяркання — гульбы.
А ў зімнія даўгія вечары
Было і ў хаце добра дзетвары.
Цясніліся мы болей пры камінку,
Дзе смалякі гарэлі безупынку.

Падкладваць іх, каб там агонь не згас —
Была работа гэтакая ў нас.
Глядзець тады нам так было цікава,
Як полымя сухі смаляк той жвава
Вясёлай плоймай яркіх языкоў
Лізала, прагнае, з усіх бакоў.
Ад іх, тых языкоў, па хаце цені
Скакалі, кідаліся, як хацелі.
Каля камінка — гонкі спіцаў лёт —
Гуў мацерын вясёлы калаўрот.
Бліжэй к агню падсунуўшыся, маці
(Цень ад яе пагойдаўся па хаце)
У пальцы брала лёгкі касмылёк
Кудзелі з прасніцы, і хутка цёк,
Расцягваючыся ўвачавідкі,
З іх ручаёк найтоненечкі ніткі.
Сачылі доўга мы за ніткай той —
Здавалася, яна сама сабой
Раўнютка бегла, весела, з ахвотай
З рук матчыных да шпулі калаўрота...

Сядзеў і бацька блізка ля стала —
Ці досыць там было яму святла?
Ён збрую ладзіў. З шылам, спічакамі
Над ёй карпеў не раз так вечарамі.
Ён, бацька — прызнаваўся ў гэтым мне, —
Ўжо рыхтаваўся к будучай вясне.
Хай за акном мароз, няхай завея
(Унь аб сцяну яе так хвошчуць шлеі!),
Хай свет занесла белай кумільгой,
Увесь ён там быў, у вясне сваёй.
Ішоў у поле выстылае ў мроях —
Араў, скародзіў, сеяў яравое.
Ён што ні дзень у думках там бываў,
Дзе сеяць што, даўно распланаваў...
Тут, на Сядзібах, пад ляском, на грудзе
У бацькі жыта налівацца будзе.
У Кадаўбах свой вузкі шнур-загон
Прысадзістым ячменем зойме ён.
Каля Станка, на чарназёме, буйна
Кусціцца будзе — рад пры радзе — бульба.
У Самшыне ж далёкім, між дубоў
(Прыстанак даўні дзікіх галубоў)
Мяцёлкамі пад аблачынак ватай

Авёс засерабрыцца сіваваты.
А грэчку на Раз’ездзе, за ляском,
На той няўдобіцы — пясок пяском —
Пасее бацька. Як пагода ўгодзіць,
То грэчка й на пясочку тым уродзіць.
Хай будзе і куртатай на пагляд —
Ды кожны кусцік добра дасць зярнят!
А на ўрадлівай жа зямлі, бывае,
Хоць вырасце, ды без зярнят — збуяе.
У Качарзе ж у бацькі будзе лён —
Як там галоўкамі зазвоніць ён!
За ўрочышчам «Дзе дуб з бярозай звіўся»
(Там я і сёння, пэўне б, заблудзіўся)
На пасеках, на галінцы лясной
Устане проса сценкаю густой...

4

Збудзіў Алеся дзіўны свіст. Так, так —
Сядзеў на ліпе ён, прылётны шпак!
Хоць снег яшчэ кругом, марозік коле,
Ды тут вясна ўжо, тут! Не згледзіш — поле
Пад сонцам скіне, поўнае надзей,
Зімы пасцілку белую з грудзей,
Адкрыецца для плуга, для зярнятаў —
Сяўбы надыдзе залатое свята.

І вось яго ўжо сонца прывяло —
Са святаў свята. Ў поле за сяло
Ўзяў бацька і мяне. І нас калёсы
У ранак пакацілі шматгалосы.
Паўзбоч бярозкі сустракалі нас —
Яны ўжо ў май убраліся якраз.
За пералескам, адхінуўшы голле,
Мы суняліся. Я застыў на міг:
У нізкіх братках жоўценькіх, жывых
Усё пад сонцам залацела поле!
А па-над ім, дзе сонца і блакіт,
Аж залівaўся жаўраначак — быццам
Павесіў нехта там на срэбнай нітцы
Залівісты званочак трапяткі.
Тым часам бацька, звычны да тых чараў,
Аюту перапрог сабе, за барак
Плуг прычапіў і ў браткаў жаўцізну

Павёў — на сонца проста — баразну.
Глядзеў зачаравана я, як глеба,
Адслойвалася роўненька, што трэба,
Як слалася за плугам, як наўкол
Раллёй рабіўся пульхнай цвёрды дол.
І бацька, змеціўшы мой зірк, спыніўся
Каля мяне. Ад шчасця засвяціўся
Я ўвесь, калі наважыў бацька даць
Таксама й мне, малому, паараць!
За плуг мяне паставіў, я за тронкі
Узяўся. Вось — напяліся пастромкі:
Пайшла Аюта. Я ўпадбег — за ёй.
Тут плуг — набок, паслізгаў бараздой!
Ды бацька мой — ступаў ён за спіною —
Яго назад вярнуў няўзнак рукою.
Цяпер раўней трымаў я плуг цяжкі,
Хістацца не даваў яму ўбакі.
І ён пайшоў слухмяна, безадмоўна
Зямлю — за скібай скібу — кроіць роўна.
Я сам ару! Хто б гэткі міг забыў!
Здаецца, я на сёмым небе быў.
Я сам тады ў вачах уласных рос
І з поля гонар — я вялікі! — нёс.

Пасля мы з бацькам поле бараной
Выгладжвалі — і я хадзіў за ёй.
Калі ж, разгладзіўшы, мы памаленьку
Ўзяліся сеяць, бацька й мне сявеньку
Ўздзяваў на плечы — я, нібы чаўнок,
Руку ўпускаў у зерня халадок
І рассяваў перад сабой: са жменяў
У свет ляцела золата праменняў.

Высіньваў неба шчабятлівы май,
Расквечваў дзьмухаўцамі лугавіны.
Абноваю вясёлай зеляніны
Лагодзіў вочы за сядзібай гай.
Пад жаўранкавы спеў, зязюль куванне
Алесь дзялянкі засяваў — снаваў
Дум залатую пражу, укладаў
У пух раллі ўсе мроі-спадзяванні.
Хадзіла кругам сонца над зямлёй,
Зрэдчасу дожджык праліваўся з хмары,
І на палях Алесевыя мары

Скрозь прарасталі яваю жывой.
Штодзень спяшаў глядзець ён, як рунела
Там ярына, ці поле не злысела
Ад прымаразкаў — мо падсеяць дзе? —
І як у рост азіміна ідзе,
Як яравая на пагляд пшаніца,
Як сокаў набірае, як кусціцца
І як уся ўзялася збажына,
Ці зелянее цёмнай хоць яна,
Ці круціцца, акрэпнуўшы, у трубкі,
Ці колас выпускае і ці дзюбкі
Праклюнуліся першыя зярнят,
Ці наліваюцца яны, ці золкам
Там падае ўжо голас перапёлка…
Алесю святам кожны быў агляд.

Тым часам у жаганні бліскавіцаў,
У грукаце грамоў сваёй сцягой
Пад радаснай вясёлкавай дугой
Ужо ішла ў Дуброву касавіца.
Яе даўно чакалі ўсе. А час
Касьбы дакладна вызначалі ў нас
Па тым, як сонца грэе, вецер вее,
Як ён з разлогаў палявых здалёк
Пачне разносіць жоўценькі пылок:
Ды гэта ж, гляньце, жыта палавее!
А раз запалавела — не пытай
Ні ў кога ўжо, касец: касу кляпай!
І пра свой сон забудзь: такой парою
На луг спяшай з навостранай касою —
Траве паспелай, Божа барані,
Не дай перастаяць на карані.

Алесь з падстрэшша, у цямку адрыны,
Дастаў касу, ацёр ад павуціны —
Не, з ёю, лёгкай, ходкаю, хоць дзе,
Жыць толькі б далі, ён не прападзе.
Але каб слухала яго, да ладу
Ён давядзе яе. З-пад панараду
Дастаў калодку з бабкай, сеў у цень,
Яе, калодку, ўзяў паміж калень,
Паклаў касу на бабку і памалу
Пацюкваць малатком пачаў па жалу.
Кляпаў, і ў такт пасоўвала рука

Касу да пяткі. Дзюбку малатка
Наслíньваў зрэдчас ён — каб лепей жала
Адцягвалася, каб, як брытва, стала.
Яшчэ сачыў: хаця б ад жала ўбок,
На поле, не адскочыў малаток.
Бо не згадаеш, як, касцу на скруху,
Ухопіш — не дай Бог — тут лапатуху.
Касьбы не быць з ёй — пробавалі вы?
Каса й заскача так паўзверх травы.
Таму біў роўна ён, немітуслíва,
Палоску жала вёў к канцу цярплíва.
А кончыў — зноў, ад пяткі да наска,
Прайшоў па жалу дзюбкай малатка…
Правёў спаднізу кіпцем — хоць бярыся
Дый праўда ёй цяпер, касой, галіся!

Ён выйшаў досвіта. Хоць хаты ўсе
І свет яшчэ хавала ноч у змроку,
Ды паяснелы ўсход казаў: здалёку
Ідзе ўжо сонца. Дахі пакрысе,
Асверы, бэз пры плоце, клён кашлаты
Ужо з сябе скідалі ночы шаты.
Калі дайшоў да месца ён, зусім
Развіднела. Блішчалі перад ім
У пасляночным прыцемачку шэрым
Лугі дуброўскія, што зваліся Падзеры
(Тут колісь на грудку, дзе сухадол,
Нібы падраў мядзведзь на дубе пчол).
А во й Алеся дзель. Трава — сцяною.
Стаіць цішком. Паблісквае расою.
Алесь без спешкі, уваткнуўшы ў дол
Кассё, з-за пояса дастаў мянташку,
Правёў прывычна па касе ўрасцяжку,
І касавіцы звон паплыў наўкол.
Хвіліна — і каса траву густую,
Мурог, перад сабой — за махам мах —
Пайшла сцінаць пры самых каранях,
Усю, як ёсць, выстругваць падчыстую
Ды слаць — убок, убок — па лузе роўна.
Касіў Алесь і ў гожасці чароўнай,
У спевах птаства, мільгатні стракоз
Дзень уставаў. Нявeтраны, пагодны,
Без хмаркі ў сінім небе. Чысціня.

І ў такт касе, у яснай шыры дня
Душа спявала.

Толькі ў свеце родным,
На момант сціхлыя, зноў на зыры
У твар падзьмулі сіверам вятры.

5

Кульгавы Юзік, хоць быў позны час,
Не увайшоў, а уляцеў да нас:
— Ці чуў, Алесь, хоць навіну! Ля Галіч
Цягнік уночы сёння падарвалі!
Паўнюткі немцаў быў той эшалон —
І на хаду ўвесь разляцеўся ён!
Што, кажуць, нарабілася там кашы!
То партызаны!.. Пачынаюць нашы!..
Ну, а назаўтра маці, дзверы ў сенцах
Не зачыніўшы, уляцела:
— Немцы!
У голасе, ў акругленых вачах
Такі перапалох, такі быў жах,
Што мы, дзятва (якраз гулялі доле),
Хутчэй на печ кульнуліся міжволі.
А бацька (на калодцы ён тады
Штось майстраваў-мастачыў, як заўжды),
Як і не чуў — спакойны быў, здаецца:
Ну дзе ж яму было у час той дзецца?
Прышэльцы ж, што вось гэтак нечакана
З'явіліся (было ж зусім шчэ рана),
Ішлі ўжо вуліцай. І — жах! — сюды
Два скіравалі. (Куры — хто куды!)
У шынялях, у шапках з казыркамі.
К варотцам падышлі. Іх нагцакамі
Умомант высадзіўшы, па двары
Пайшлі ўразвалку. Бы гаспадары.

І вось загрукаталі ў дзверы. Маці —
Што зробіш тут? — пабегла адчыняць ім.
Ледзь прыгінаючыся у дзвярах,
Ступілі ў хату. Нібы на цвіках,
На печы, сціснуўшыся, мы сядзелі,
Малыя, і з-за коміна глядзелі,
Чакаючы, што ж гэта будзе тут!

А немцы, аглядзеўшы кожны кут,
На нас пагляды затрымаўшы штосьці,
Да бацькі ўжо, няпрошаныя госці,
Загергетаўшы нешта, падышлі
І апранацца — знак яму далі.
Наш плач быў гэтакі пераканаўчы!
Ды не, нічога ён не перайначыў.
Забралі бацьку, павялі, як бач,
Пад матчын енк, пад наш дзіцячы плач.

Праз вокны бачылі мы: і з другіх
Двароў выводзілі мужчын і ўсіх
Па вуліцы вялі. За вёску недзе!
Былі з таго канца тут і суседзі.
Вунь, бачыў я, ішоў Каваль — здавён
Так звалі ў нас Дразда, бо й праўда ён
Быў кавалём: нялёгкі той занятак
Яму ад бацькі перайшоў у спадак
(А той, казалі, зноў-такі яго
У даўні час ад бацькі ўзяў свайго...).

Да Каваля мы ў кузню, што стаяла
На ўскрайку вёскі, пры ляску, бывала,
Усёй гурмой заглядвалі не раз,
І ён не праганяў ніколі нас.
Нам гэтак паглядзець было цікава,
Як прэнт агняны на кавадла жвава
Нёс у цісках і молатам цяжкім
З размаху гахаў ён па прэнце тым,
А з-пад яго, што вогненныя восы,
Па кузні ўсёй ляцелі іскры ўроссып.
І ў іскрах тых Каваль, што біў наўзмах,
Быў нам у чорным фартуху, як маг.
Маўклівы быў ён нейкі, рэдка слова
Мы чулі ад яго, але талкова
Усё рабіў. Даваў ён часцяком
І нам па прэнце стукнуць малатком,
Раздзьмуць яму агонь у горне мехам
Альбо паднесці жалязяку спехам...

За Кавалём у одуме цяжкім
Ступаў вунь дзядзька Чорны; нам, малым,
Быў ён цікавы тым, што ведаў многа
Усякіх баек — імі, быццам з рога,

Ён сыпаў перад намі кожны раз,
Калі страчаў хоць каго-небудзь з нас.
Любіў расказваць асабліва дзядзька
Аб мікалаеўскай вайне — як хвацка
Ён біўся з немцамі, як часта ён
Іх браў, ваяк Вільгельма, у палон.
Было: пачне рабіць што, ды якога
Угледзіць слухача, хоць і малога,
Кідае ўсё, на дол садзіцца дзе
І зноў пра даўні бой расказ вядзе,
Аж покуль жонка з трапкачом, Дарота,
З вайны не верне дзядзьку да работы...

Мільгнуў і Асановіч ля вакон —
Схудалы, тонкі. Яшчэ летам ён
Прыйшоў з палону — пад Бабруйскам недзе
Яго за дротам з нашых нехта ўгледзеў
І жонцы расказаў. Яна тады
І выбавіла ўсё ж яго з бяды!
Быў ён як цень, ледзь дух трымаўся ў целе,
Ды акрыяў вось дома, у пасцелі...

Вялі за вёску і Галавача —
З таго канца — музыку-скрыпача.
Я помню міг, як, сеўшы на калодку,
Ён скрыпку браў, прыладжваў к падбародку
І, да яе схіляючыся вухам,
Смыком кранаўся струн няўлоўным рухам.
І ўжо — адкуль, не ведаю, мо з высяў? —
Такія гукі дзіўныя ліліся,
Мяне ў салодкі беручы палон:
Ціява гэта ўсё было, ці сон?..
Цяпер ішоў пануры ён, у світцы
(Ці можа граць яшчэ хто так на скрыпцы?..),
Ішоў пад змуламі вінтовак. Побач з ім
Ступаў падлетак — сын яго — Максім...

Як аднаго, вялі мужчын-вяскоўцаў,
І больш за ўсё — такіх во юных хлопцаў.
І іх паставілі пры лесе ў рад —
Паддзёўкі, кажухі, насовы, світы...
Як звеку, сонца — хто яму не рад? —
Ішло па небе ўласнаю арбітай.
Сінічка недзе цінькала ў сасне,

Пастукваў звычна дзяцел за спіною.
І так іскрыўся першародны снег
Навокал нечапанай белізною!..
Няўжо канец? Няўжо астатні раз
Яны глядзяць на свет во гэты белы?
Няўжо вунь тое ў хмарках сонца ўраз
Чужацкія навек патушаць стрэлы?
Перад вачмі ў Алеся праплыло
За міг жыццё, якое тут во стрэціў...
Ды ці ж яно яшчэ ў яго было?
Ён жыць збіраўся яшчэ толькі ў свеце.
Хацеў ён поле пры ляску араць,
Раўняць, з сяўнёй ісці у час вясенні
І прад сабой, як веер, распускаць
Насустрач сонцу золата насення.
Ён спаў і бачыў толькі свой надзел,
Што тут, пад небам, доля даравала,
Пра хлеб ён думаў, хлебароб, штодзень...
Ды гэтага о як было ўсё ж мала!
Ці можна ў век грымотны ў бегу дзён
У шкарлупіне ўласнай зачыняцца?
На нейчы розум — хай наймудры ён —
З нядбаласцю дзіцячай пакладацца?
Даверыць лёс камусь? Не дбаць аб ім?
Дайсці, каб іншы хтось рукой чужацкай
Тваёю доляю, жыццём тваім,
Як толькі захацеў, вярцеў, бы цацкай?..

Тым часам немцы — зразумець як іх? —
Намер свой страшны адмянілі ўміг,
Дамоў усім вяртацца загадалі —
Жыццё ізноўку людзям даравалі?
Так, даравалі! Распусцілі усіх
Па катухах — сядзіце ды чакайце,
Пакуль вас зноў не выпаруць: канчайце
Вылежвацца па закутках глухіх!
Вы ўласнасць фюрэра, яго вы рэчы,
І ён здалее выкарыстаць вас —
Як затычку якую (будзе час!)
Ці гліну, што спатрэбіцца дарэчы!
Прыгорбленыя, вуліцай ішлі
Маўчком вяскоўцы з выгану: няслі
Дахаты думак ношы найцяжкія.
Ды выхаду не мелі думкі тыя:

Тут, на сваёй, на бацькаўскай зямлі,
Яны нявольнікі, як і былі.
Ішлі дуброўцы ўнурана й нічога
Прыдумаць не маглі, што ім рабіць,
Дзе дзецца, як ім ліха з ліхаў збыць…

Ці ж спадзявацца ім усё на Бога?

*1979–2006*



* * *

Калі над горадам усходжваецца непагода,
зрываючы з паважных дзядзькоў
капелюшы —
гэй, перайме там, сябар! —
Калі яна між дамоў шалее,
дзеркачом завірухі
змятаючы людзей з тратуараў
за дэрмацін дзвярэй,
дзе аж трашчаць ад нагрэву
Трубы цеплацэнтралі,—
Я думаю пра вас, землякі, зялёнадуброўцы.
(Вы на чорнай — зімою белай — зямлі,
якая адкрыта перад усімі зорамі і вятрамі,
як жылі, жывяце,
беззабаронна й нязрушна,
як дрэвы.)
Бачу Вас, дзядзька Белы.
Які пісец гэтак твар Ваш маршчынамі скрэмзаў?
Па іх, як па пісьмёнах,
Я пра лёс Ваш чытаю.
Вось гэта расказвае пра вайну мікалаеўскую
(колькі асколкаў і куль ляцела на Вас,
каб змяшаць Вас з зямлёю!).
Гэта — як хлеб Вам даваўся
(за пот, што Вы шчодра лілі на палі,
плацілі Вам працаднямі,
пустымі, як абмалочаныя каласы).
Гэта і гэта — пра Вашых сыноў,
Алёшу і Юзіка,
якія ўсё яшчэ не прыйшлі
з 41 года...
Бачу Вас, Ясь Дубовік.
Вы скора справіце сваё 80-годдзе,
а ідзяце яшчэ з віламі на Канаву —
вяршыць стагі свайго чарговага лета.
Колькі Вы скідалі іх за жыццё?
Каб гэта раптам сабраць з усіх лет
Вашы стагі,

быў бы, напэўна,
найвялікшы ў свеце горад стагоў!
Бачу цябе, Аркадзя Азанаў.
Помніш,
ты ўсё мерыўся з'ехаць з Зялёнай Дубровы
(«Не было і не будзе тут парадку!»)?
А зараз, відаць, раздумаў:
куды ні пайдзі, чуваць, як чмыхае
сінім дымком твой трактар,
ад якога цябе не адцягне і жонка,
вячэраць гукаючы...
Бачу Вас, стары Галляш,—
самы першы ў вёсцы грыбовік,
казачнік і сейбіт.
Прыпадаючы на адну нагу,
Вы ідзяце па дымнай раллі,
прама на ранняе сонца.
І жменя за жменяй — бераце з лубкі
і сееце, распускаючы залатым веерам
перад сабою, жыццё.
Бачу Вас, Антон Цвірка — вялікі пчаляр
(на ўсіх вакольных дубах
звіняць пчоламі Вашы калоды);
Вас, Бэрнусь Паўловіч,— скрыпач-чараўнік
(колькі шчаслівых слёз
выбраў з сэрцаў людскіх Ваш смык!);
Цябе, Сымон, конюх-філосаф
(я цябе вышэй бы паставіў за многіх з тых,
хто выседзеў нават гросбухі
доктарскіх дысертацый);
Вас, цётка Крыстына,
найлепшая з лекарак, якіх я ведаў
(як рукой здымаюць хваробу ў дзяцей
Вашы незразумелыя і такія ласкавыя словы!)...
Няхай некаторыя з Вас даўно
парацъ ужо на жоўтым пагосце косці,
але для мяне Вы заўсёды жывыя,
мае землякі.
І пра кожнага з Вас,
калі ў мяне хопіць сілы і таленту,
я напішу яшчэ — абавязкова! —
па самай светлай паэме.

*1966*

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Цвірка** Канстанцін Аляксеевіч

**Будзіла вёску берасцянка**
*Людзі і былі маёй Зялёнай Дубровы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Балвановіч*
Камп'ютэрны набор і вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктары *Ніна Цвірка, Валянціна Балвановіч*

Падпісана да друку 16.05.2007 г. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Друк афсетны.
Папера афсетная. Гарнітура Times. Ум. друк. 15,33 арк.
Ул.-выд. 18,45 арк. Наклад 300 ас. Зак. 641.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.